Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 51 (4851) 24 снежня 2015 г.




















# Беларусь, не бойся прыняць Хрыста!

## Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры!

Сардэчна вітаю вас словамі анёла, які абвясціў бэтлеемскім пастушкам аб нараджэнні Збаўцы. Убачыўшы Божага пасланца, яны напалохаліся. З упэўненасцю можна сказаць, што і мы ўчынілі б тое самае, калі б нам з'явіўся анёл. Але Божы пасланец іх супакоіў, кажучы, што ў горадзе Давіда нарадзіўся Збаўца, якога чалавецтва з нецярпеннем чакала.

Знамянальна, што сёлетнюю ўрачыстасць Нараджэння Хрыста мы святкуем у Год Божай Міласэрнасці. Прыйсце Божага Сына ў свет у чалавечым вобразе было знакам бязмежнай Божай міласэрнасці да чалавека, якая праяўляецца і далей у паслузе Касцёла і да якой мы ўсе пакліканыя.

Нараджэнне Езуса ў Бэтлееме больш як 2000 гадоў таму — гэта ўжо гісторыя, хаця вельмі прыгожая і сентыментальная, аднак гісторыя. З яе мы павінны вучыцца, бо гісторыя з'яўляецца маці-настаўніцай. Нараджэнне ж Хрыста, будучы гістарычнай падзеяй, адначасова з'яўляецца дынамічным працэсам. Хрыстус і сёння нараджаецца ў Касцёле і прыходзіць да нас у Святым Пісанні, сакрамэнтах, перадусім у Эўхарыстыі, прыходзіць у іншай дзейнасці Касцёла, асабліва праз учынкі міласэрнасці.

Ці мы пазнаём Яго? Ці не баімся адчыніць Яму дзверы нашых сэрцаў і дазволіць быць з намі? Ці радуемся Яго прыйсцю? На гэтыя і падобныя пытанні нам неабходна адказаць, бо бяда будзе нам, калі мы будзем верыць у тое, што Ён нарадзіўся ў Бэтлееме, а сваёй ласкай не нараджаецца ў нашых сэрцах, — як казаў наш вялікі паэт Адам Міцкевіч.

Чытайце на стар. 2

# Кніжныя анёлы існуюць!



Фота Кастуся Дробава.

*Самы каштоўны лот кніжнага аўкцыёну — першы асобнік накладу выдання «Уладзімір Мулявін. "Сэрцам і думамі..."».*

**Пайсці на імпрэзу і сустрэць вакаліста з легендарнага ансамбля «Песняры» Леаніда Барткевіча, вядомага кампазітара Алега Молчана. Назіраць, як самы першы асобнік кнігі набываюць за 9,5 мільёна рублёў. Слухаць, як намеснік міністра інфармацыі краіны чытае ўрывак з каляднага апавядання Уладзіміра Караткевіча… Думаеце, такое не можа адбывацца ў рэчаіснасці? Памыляецеся! Калі гаворка ідзе пра Калядны дабрачынны баль кнігі, то магчымыя нават больш нечаканыя сюрпрызы.**

Свята кнігі і дабрачыннасці прайшло ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі пад патранатам Міністэрства інфармацыі краіны і ААТ «Белкніга». Сёлета асноўнай тэмай стала чытанне ў сям'і.

Правядзенне дабрачыннага балю кнігі напярэдадні Каляд і Новага года стала выдатнай традыцыяй: ён адбыўся ў нашай краіне ўжо чацвёрты раз. Баль і ўнікальны дабрачынны кніжны аўкцыён, што праходзіць у яго межах, — гэта і падвядзенне вынікаў выдавецкага года, і магчымасць прадставіць самыя яркія праекты, і спроба здзейсніць цуд хоць для невялікай колькасці дзяцей-сірот. Так, сродкі, атрыманыя ад продажу кніжных лотаў, штогод пералічваюцца на рахунак аднаго з дамоў-інтэрнатаў краіны. У гэтым годзе мэтавай установай стаў Журавіцкі дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, што знаходзіцца ў Рагачоўскім раёне. Менавіта Рагачоў стане месцам правядзення Свята беларускага пісьменства ў 2016 годзе.

Распачынаючы святочны баль, у сваім прывітальным слове міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч звярнула ўвагу на знакавыя для айчыннай кнігі падзеі 2015 года. Лілія Станіславаўна зазначыла:

— Сёлета наша краіна чарговы раз стала ўладальнікам Гран-пры Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД за кнігу «Беларусь замкавая». Мы адкрылі новы праект — міжнародны сімпозіум «Пісьменнік і Час», які ўпершыню сабраў удзельнікаў з розных краін свету ў лютым, падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. 2015-ы стаў годам заснавання Нацыянальнай літаратурнай прэміі, гэта пацвярджае вялікі клопат дзяржавы пра развіццё нашай літаратуры, кнігавыдання. Беларусь прагучала ў свеце, таму што ў нас з'явіўся свой Нобелеўскі лаўрэат — Святлана Алексіевіч, гэта таксама знакавы момант для беларускай літаратуры.

Чытайце на стар. 9

## Пункцірам

✔ Дні беларускай культуры ў Францыі наведалі каля 150 тысяч чалавек. Пры ўдзеле беларускага пасольства было праведзена 36 культурных мерапрыемстваў. Аўдыторыю парадавалі выступленні Акадэмічнага ансамбля Узброеных Сіл Беларусі, Гродзенскай капэлы, шоу-балета «Феерыя» з Мінска, ансамбля беларускай песні «Церніца». Акрамя таго, у Францыі гастраліраваў Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі.

✔ У Віцебскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі прайшоў справаздачна-выбарны сход. Падведзены вынікі пяцігадовай працы, выбраны старшыня. Як і раней, аддзяленне ўзначаліла лаўрэат Першай нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка.

✔ У кінатэатры «Цэнтральны» 25 — 26 снежня будзе дэманстравацца фільм «Музеі Ватыкана 3D». Мінчане і госці сталіцы змогуць азнаёміцца з работамі з мастацкай калекцыі Пап Рымскіх — скульптурамі Мікеланджэла Буанароці і Луча Фантана, карцінамі Джота ды Бандонэ, Леанарда да Вінчы і Мерызі да Караваджа, Ван Гога, Марка Шагала і Сальвадора Далі, фрэскамі Рафаэля і неверагоднымі творамі Мікеланджэла ў Сікстынскай капэле.

✔ Эскізны праект помніка Настассі Слуцкай беларускага скульптара Сяргея Аганава названы пераможцам творчага конкурсу, у якім бралі ўдзел 10 работ. Прафесійнае журы адзначыла высокі ўзровень выканання эскізных праектаў, спыніўшы свой выбар на прапанове члена Беларускага саюза мастакоў Сяргея Аганава. Гэтую работу судзейская калегія палічыла самай выразнай: яна найбольш ёміста перадае вобраз легендарнай князігіні, жанчыны-воіна.

✔ Музей беларускага кнігадрукавання падрыхтаваў да Новага года выстаўку «Кола дзён», на якой прадстаўлена калекцыя календароў самых розных форм і тэматыкі, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

✔ Фінальнае мерапрыемства рэспубліканскай акцыі «Культурная сталіца Беларусі-2015» прайшло ў Брэсце. Многія з творчых праектаў ажыццёўлены ўпершыню, у тым ліку і па ініцыятыве гараджан. Прынамсі, Берасцейскі карнавал атрымае працяг і стане фішкай горада. Бард-фестываль імя У. Высоцкага таксама будзе традыцыйным.

✔ Беларуская традыцыя святкавання ў гонар абраза Маці Божай Будслаўскай прэтэндуе на ўнясенне ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва. У 2009 годзе ўпершыню ў спіс ЮНЕСКА ўвайшоў унікальны абрад «Калядныя цары», характэрны толькі для вёскі Семежава Капыльскага раёна.

✔ Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах прапануе калядную праграму для школьнікаў. Экскурсія раскажа пра музейныя шэдэўры, а займальны майстар-клас пазнаёміць з некаторымі рамёствамі бліжэй. Кожны ўдзельнік атрымае памятны сувенір, зроблены ўласнымі рукамі. Кульмінацыя свята — батлеечны тэатр па народных матывах «Дзве сястры — дзве каляды».

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Беларусь, не бойся прыняць Хрыста!

Мы жывём у асаблівы для Касцёла і свету час. З аднаго боку свет імкнецца спіхнуць хрысціянскую веру на ўзбочыну грамадскага жыцця. З іншага ж мы бачым шмат знакаў дзеяння Святога Духа.

Мы з'яўляемся часткай гісторыі, якая адбываецца на нашых вачах, і, як вернючыя, павінны сваім жыццём і хрысціянскім сведчаннем вызнаваць веру ў Езуса Хрыста, які быў зачаты ад Святога Духа, нарадзіўся з Панны Марыі ў Бэтлееме, быў укрыжаваны, пахаваны, уваскрос, узышоў на неба і сядзіць праваруч Айца.

Божае Нараджэнне стала сапраўднай рэвалюцыяй у гісторыі чалавецтва, бо Сын Божы стаўся чалавекам для нас і нашага збаўлення, прынёс у гэты грэшны свет новы закон любові да бліжняга і адарыў яго збаўчай ласкай.

Падобная духоўная рэвалюцыя павінна адбыцца і ў кожным з нас, каб мы моцна трымаліся сваёй веры і не дазволілі спіхнуць яе на ўзбочыну жыцця, але з высока паднятай галавой ішлі праз яго, ведаючы, што нашай мэтай ёсць шчаслівая вечнасць.

Папа Францішак кажа, што без веры ў Хрыста мы хаця і можам рабіць добрыя рэчы, аднак не можам быць сапраўдным Касцёлам, як Абранніцай Хрыста.

Адсюль вынікае вялікая дылема: кім быць — паклоннікамі Хрыста ці Яго сапраўднымі вызнаўцамі? Вельмі часта мы становімся першымі, а не другімі. Кажам, што з'яўляемся веруючымі, чынім шмат добрага, але ў той жа час не вызнаём Хрыста як свайго Пана, не заўсёды прымаем удзел у нядзельнай ці святочнай святой Імшы і не жывём згодна з маральным законам.

Кім ты хочаш быць, сучасны чалавек? Вызнаўцам, паслядоўнікам і сведкам Хрыста ці толькі Яго паклоннікам? Хочаш даверыцца Езусу ці свету? Адказаць на гэтыя і падобныя пытанні нам можа дапамагчы апостал Пётр. Мы добра ведаем евангельскі аповед пра тое, як па загадзе Езуса Пётр пайшоў па ўзбураным возеры, пакуль не спалохаўся і не пачаў тануць.

Даверыцца Хрысту — азначае пайсці за Яго голасам; як Пётр, выйсці з чаўна XXI стагоддзя, каб ісці па хвалях узбуранага возера нашага часу, які нам навязвае свой стыль жыцця. Езус нас не пакідае адных у гэтым чаўне, але ідзе ў яго напрамку.

Сучасны свет вельмі моцна занепакоены фінансавым крызісам і ліхаманкава шукае шляхоў выйсця з яго. Здаецца, што найважнейшай справай з'яўляюцца банкі, фінансавыя рынкі і палітыкі, якія дыскутуюць пра тое, як выратаваць банкрутаў.

У той жа час неабходна падкрэсліць, што сучасны свет змагаецца не толькі з фінансавым, але і з культурным і духоўным крызісам. Матэрыяльныя каштоўнасці і прыемнасці сталі новымі багамі, якім усе пакланяюцца і падпарадкоўваюць сваё жыццё. З праслаўленнем фальшывых бажкоў чалавецтва адварочваецца ад адзінага і сапраўднага Бога.

Божы закон лічыцца састарэлым, неактуальным і ўспрымаецца як рэлікт мінулых часоў. Сучасныя медыя ў шматлікіх серыялах, рэкламах і забаўляльных праграмах распаўсюджваюць стыль жыцця, у якім зло, грэх і незахаванне Божага закону ўспрымаецца як нешта захапляючае і пазітыўнае. Усё гэта вядзе да таго, што заганы называюцца норавамі.

Бурнае развіццё тэхналогій і імкненне да як мага большай прадуктыўнасці падрывае праўдзівы сэнс і значэнне чалавечай працы. Нярэдка культура, замяняючы духоўнае свецкім, спрыяе ўкараненню амаральнасці.

На гэтым фоне не хапае праграм, якія фарміравалі б сумленне чалавека і распаўсюджвалі б духоўныя каштоўнасці, такія, як малітва, дабрачыннасць, міласэрнасць, працавітасць, адказнасць, ахвярнасць і інш. Замест іх пануюць імкненне да ўзбагачэння любым коштам, забаўляльны стыль жыцця і г. д. У выніку людзі губляюць здольнасць адрозніваць дабро ад зла. Пры гэтым мы не заўсёды ўсведамляем, што такія праблемы ўзнікаюць па прычыне непрыняцця Божага закону. Найбольш небяспечная пагроза для хрысціянства — рэлігійная абыякавасць хрысціян.

Мы самі ствараем сітуацыю глыбокага маральнага крызісу і ў пэўным сэнсе нагадваем «Тытанік», на якім, нягледзячы на набліжэнне катастрофы, аркестр граў да апошняй хвіліны, а пасажыры пілі шампанскае.

У той жа час народжаны ў Бэтлееме Езус праз паслугу Касцёла прыходзіць да нас. Не трэба баяцца прыняць Яго, бо Ён нічога не адбірае, а дае ўсё, — як вучыць Папа Бэнэдыкт XVI. Каб пазбегнуць негатыўнага ўплыву сучасных секулярных тэндэнцый, неабходна адчыніць Яму дзверы нашых сэрцаў і душаў! Адчыніць сёння, бо заўтра можа быць позна!

Езус, увайдзі сваёй духоўнай моцай у наша грамадства і аздаваі яго! Увайдзі ў палітычныя, эканамічныя і культурныя сістэмы, каб яны як мага лепш служылі дабру чалавека і спрыялі яго духоўнаму росту. Святлом свайго Евангелля асвятлі наш шлях. Умацуй нашу веру, надзею і любоў!

Дарагія браты і сёстры!

Віншую ўсіх каталікоў з радасным і збаўчым святам Нараджэння Хрыста!

Віншую хрысціян іншых веравызнанняў, якія сёння адзначаюць яго!

Віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія ў хуткім часе будуць святкаваць Божае Нараджэнне!

Віншую ўсіх людзей добрай волі! Сын Божы прыйшоў у гэты свет у вобразе чалавека для ўсіх, а сённяшняе свята ў Беларусі адзначаецца таксама і на дзяржаўным узроўні.

Падобна таму, як нованароджанае немаўля з'яўляецца знакам надзеі для яго бацькоў, таксама і Немаўля Езус нясе новую надзею ўсім нам і нашай Бацькаўшчыне, бо Бог спаслаў свайго Сына, народжанага з Марыі Дзевы, каб аб'явіць нам канчатковую сваю любоў, — як кажа Папа Францішак, абвяшчаючы Юбілейны Год Міласэрнасці.

Таму, Беларусь, не бойся прызнаць у Хрысце Сына Божага, прымі Яго і даверся Яму! Ён сваёй любоўю залечыць твае раны, прывядзе да так патрэбнага ўсім нам цуду паяднання і ўчыніць цябе новай і шчаслівай!

**Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Пад зоркай Кірылы Тураўскага

Літаратурная прэмія імя Кірылы Тураўскага заснавана рашэннем Гомельскага аблвыканкама ў лютым 2013 года. Яе папярэднікам на працягу 6 год быў абласны літаратурны конкурс імя Кірылы Тураўскага. Падчас сёлетняй цырымоніі ўручэння прэмій, што адбылася ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна, намеснік старшыні аблвыканкама Уладзімір Прывалаў зазначыў: «Гомельскі аблвыканкам заўсёды падтрымліваў і будзе падтрымліваць таленавітых людзей дзеля далейшага развіцця мастацкага слова. Папулярнасць конкурсу «Літаратурная прэмія імя Кірылы Тураўскага», заснаванага Гомельскім абласным выканаўчым камітэтам, абласным Саветам дэпутатаў і Гомельскім абласным аддзяленнем СПБ, пастаянна расце. І мацнее перакананне, што літаратурныя традыцыі на Гомельшчыне будуць развівацца».

Сёлета на саісканне прэміі было пададзена 70 рукапісаў будучых кніг.

Лаўрэатамі абласной прэміі імя Кірылы Тураўскага сёлета сталі Аляксей Бычкоў у намінацыі «Драматургія», Ніна Нікіціна (Шклярава) у намінацыі «Паэзія», празаік і публіцыст Міхась Кавалёў (Міхась Сліва) у намінацыі «Проза», паэтэса Вера Квяткоўская ў намінацыі «Дзіцячая літаратура». А ў намінацыі «Адкрыццё» ў пераможцах сямейнае трыа: Яўген і Наталля Шастаковы ды іх сын Максім — за серыю мастацкіх нарысаў пра родны край.

Галоўнай узнагародай для пераможцаў стала выданне іх твораў пры падтрымцы аблвыканкама. Першыя экзэмпляры сваіх кніг лаўрэаты атрымалі якраз падчас урачыстай цырымоніі.

Паводле слоў старшыні Гомельскага абласнога аддзялення СПБ Уладзіміра Гаўрыловіча, прэмія імя Кірылы Тураўскага — стымул для сучасных аўтараў. «Калі пісьменнік бачыць сваю запатрабаванасць, то ў яго з'яўляецца жаданне тварыць і ствараць сапраўдную літаратуру, высокамастацкія творы. Нас, пісьменнікаў вобласці, вельмі радуе, што, нягледзячы на дастаткова цяжкі час у эканоміцы вобласці, улады рэгіёна ўсё ж знаходзяць магчымасць падтрымаць літаратараў, якія жывуць, працуюць на роднай зямлі, дбаюць пра яе духоўны дабрабыт».

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

# Фізік, лірык, філосаф

## Раскрыць талент паэта можна ў сталым узросце

Сваёй творчасцю гэта прадэманстравала сайчынная паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганна Васільева падчас юбілейнага творчага вечара ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 7 імя Якуба Коласа.

Нарадзілася Г. Васільева ў сям'і настаўнікаў: маці выкладала рускую і беларускую мовы і літаратуры, бацька — фізіку. Паэтэса прыгадала і свае дзіцячыя, школьныя гады, юнацтва, пачатак творчасці, прачытала ўласныя вершы, у тым ліку прысвечаныя сыну і дачцэ, а таксама дзядзьку, які загінуў 8 мая 1945-га. Распавяла і пра стварэнне сваіх паэтычных зборнікаў, адказала на пытанні публікі.

Распачалася імпрэза выступленнем дзіцячага танцавальнага калектыву «Dance Top» (мастацкі кіраўнік — Лілія Унучко). Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў назваў Ганну Васільеву, фізіка па адукацыі і аўтара чатырох зборнікаў, паэтам-лірыкам і паэтам-філосафам. Міхась Паўлавіч прадэкламаваў два яе вершы і ўручыў грамату Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вершы Г. Васільевай прагучалі і ў выкананні студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Аляксандра Скам'янава, акцёра паэтычнага тэатра «Рытмы сэрца» Цэнтра культурна-масавай работы БДУІР (кіраўнік тэатра — Кацярына Салата). Пасля імпрэзы кожны меў магчымасць набыць зборнікі Ганны Васільевай з аўтографам аўтара.

**Яна ЯВІЧ**

# Сустрэнемся на карыдзе

Тарэадоры і іспанская рэвалюцыя, «галерэя» заганаў і антычныя прыгажуні — выстаўка «Гоя... Пікаса» прыехала ў Мінск з Мадрыда, Каралеўскай акадэміі вытанчаных мастацтваў Сан-Фернанда. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь пад гукі іспанскай гітары на фоне рознакаляровых сцен адкрылі экспазіцыю сапраўдных рэпрадукцый вялікіх мастакоў.

Гравюры на метале Францыска дэ Гоя склалі большасць — іх на выстаўцы ажно 80. Пабла Пікаса прадстаўлены толькі 15-цю афортамі. Але гэта не перашкаджае пераасэнсаваць тэматычную глыбіню, разгорнутую майстрамі, паразважаць на тэму палітыкі, рэлігіі і соцыуму таго часу. Барацьба чалавека, трыумф перамог і расчараванне паражэннямі, бясконцыя пошукі сэнсу жыцця... Усё гэта адлюстравана ў знакамітых серыях Гоі «Капрычас», «Таўрамахія», «Дыспаратэс» і «Бедства вайны», а таксама на гравюрах Пікаса з «Сюіты Валара», ілюстрацыях да навелы Анарэ дэ Бальзака «Невядомы шэдэўр», асобных работах «Паранены Пікадор», «Тры жанчыны і тарэадор», «Акцёрская трупа» і іншых.

Серыя Гоі «Капрычас», створаная ў 1797-98 гг., адсылае да іспанскага фальклору — прыказак і прымавак, баек, што ўвасабляюць чалавечыя заганы: прытворства і жорсткасць, баязлівасць і крывадушнасць. Афорты з «Бедстваў вайны» (1808 — 1820) — гэта аповед пра жарсці іспанскай рэвалюцыі і вайны з Напалеонам, а серыя «Таўрамахія» раскрывае нацыянальную з'яву іспанцаў карыду ва ўласцівай майстру экспрэсіўнай манеры.

Што тычыцца Пікаса, то яго «Сюіта Валара» з'яўляецца цыклам рамантычных, месцамі эратычных, створаных у антычнай атмасферы, афортаў, якія рабіліся па замове Амбруаза Валара, вядомага ў Парыжы таго часу арт-дылера.



*Францыска Гоя «За справу, рабяты», 1797—1799 з серыі «Дзівацтвы».*

У Мінск разам з творамі класікаў прыляцеў іспанскі **акадэмік Каралеўскай акадэміі вытанчаных мастацтваў Сан-Фернанда, мастацтвазнаўца, скульптар і куратар выстаўкі Хуан Бардэс Кабальера.** Паводле яго слоў, выстаўка ў Мінску для іспанскага боку — вялікі гонар. «Толькі дзякуючы Пікаса і Гоя можна вывучаць гісторыю сусветнай гравюры. Характар народа ярка адлюстраваны ў іх творах».

У кастрычніку наступнага года ў сталіцу Беларусі прыедзе выстаўка Эль Грэка з музея ў Таледа, а праваслаўныя іконы святых Пятра і Паўла адправяцца ў сонечную Іспанію. Пра гэта паведаміў **Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы і Каралеўстве Іспанія Павел Латушка**, які, у тым ліку, садзейнічаў адкрыццю дадзенай экспазіцыі:

— Супрацоўніцтва паміж краінамі дынамічна развіваецца. Нядаўна ў Іспаніі з гастролямі выступаў беларускі балет, прайшоў першы сумесны бізнес-форум. Ужо падрыхтаваны два важныя дакументы — міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне эканомікі і прамысловасці і праект мемарандума паміж міністэрствамі замежных спраў.

Выстаўка арганізавана прадзюсарскім бюро «Берын Арт Менеджмент» пры падтрымцы Міністэрства адукацыі, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Дарэчы, сцены ў музеі сапраўды перафарбоўвалі спецыяльна да выстаўкі, каб падкрэсліць эмацыянальныя і ідэйныя адрозненні абраных мастакамі тэм. Арганізатары абяцаюць, што экспазіцыя не абмяжуецца стандартнай праграмай. Чакаюцца музычныя вечары з іспанскім каларытам, паказы кінафільмаў, квэсты для дзяцей.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Дайджэст

• Дакументальны фільм «У вайны не жаночае аблічча» паводле сцэнарыя Святланы Алексіевіч пакажуць у беларускіх кінатэатрах. Сёлета на кінастудыі «Беларусьфільм» стужка была пераведзеная ў лічбавы фармат у межах стварэння лічбавага фільматэчнага фонду і электроннага каталога кінематаграфічных твораў. Аднак паказ фільма ў кінатэатрах яшчэ не гарантаваны: усё залежыць ад таго, ці будуць заключаныя дамовы на яго пракат.

• У філадэльфійскай школе падпала пад забарону кніга Марка Твэна «Прыгоды Гекльберы Фіна». Твор выключаны са школьнай праграмы 11 класаў праз тое, што ў ім ужываецца слова «нігер». Яно сустракаецца больш як 200 разоў, паведамляе *TheGuardian*. У 2011 годзе выйшла эксперыментальнае выданне «Прыгодаў...», дзе апальнае слова замянілі словам «раб». Між тым кнігі з забароненым творам засталіся ў школьнай бібліятэцы. Цікава, што гэта ўжо не першы «арышт» твора. У 1885 годзе «Прыгоды...» былі забароненыя ў горадзе Канкорд (штат Масачусэтс) і абвешчаныя «смеццем, прыгодным адно для трушчоб». Марк Твэн быў бы вельмі здзіўлены: сам ён заўжды выступаў супраць расізму і рабства.

• Прапраўнучка Аляксандра Пушкіна Наталля Паўлава выступіла для ўдзельнікаў IV Міжнароднага культурнага форуму ў Санкт-Пецярбургу з рамансамі на вершы свайго славутага прадзеда. Таксама оперная спявачка чытала вершы Аляксандра Пушкіна. Такую праграму Наталля Паўлава ў Расіі выканала ўпершыню.

• Заснаваная Прэмія Цёткі для дзіцячых пісьменнікаў і ілюстратараў. Яе абвясцілі Беларускі ПЭН-цэнтр і дабрачынны фонд «Вяртанне». Упершыню прэмія будзе ўручаная ўвесну 2016 года, а да конкурсу прымаюцца кнігі, якія выйшлі па-беларуску цягам 2015 года. Прэмія Цёткі мае дзве намінацыі: за найлепшы твор для дзяцей і падлеткаў (проза, паэзія ці драматургія) і за найлепшае мастацкае афармленне кнігі (мастаку-ілюстратару). Вызначацца будзе толькі адзін пераможца ў намінацыі. Узнагарода — грашовая сума, эквівалентная 2000$ паводле курсу Нацыянальнага банка РБ. Падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце *ciotka.by*.

• Джоан Роўлінг можа атрымаць спецпрыз расійскай прэміі «Большая книга» — 2016. Пра гэта паведаміў намеснік кіраўніка Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях РФ Уладзімір Грыгор'еў. Брытанскую пісьменніцу хочуць узнагародзіць «за выбітны ўнёсак у справу прыцягнення маладога пакалення да чытання». Калі Роўлінг атрымае дастатковую колькасць галасоў, яе запросяць у Расію. Нагадаем, што пісьменніца вядомая серыяй кніг пра свет чараўнікоў, галоўны герой іх — Гары Потэр. Сёння гэтыя сем кніг карыстаюцца надзвычайнай папулярнасцю ў чытачоў усяго свету і перакладзеныя на 67 моў.

• Маскоўскі метрапалітэн запускае цягнік-бібліятэку. На маршрут ён выйдзе 23 снежня і будзе курсіраваць па Калужска-Рыжскай лініі метро. Афармлены цягнік у выглядзе бібліятэкі, на фоне кніжных паліц размесцяць урыўкі з вядомых твораў. Пасажыры змогуць спампаваць любую кнігу з асабістай бібліятэкі ўдзельнікаў праекта, а станцыі будуць аб'яўляць галасы пісьменнікаў, якія таксама падзеляцца рэкамендацыямі ў выбары літаратуры. Акрамя таго, у вагонах цягніка з'явіцца літаратурная схема Маскоўскага метро, якая дапаможа скласці маршрут па літаратурных мясцінах горада.

## Акцыі

# Зрабіць чытанне модным

**Так акрэсліла сутнасць пераднавагодняга кніжнага марафону «Калядная казка» вядучы спецыяліст аддзела падпіскі і рэалізацыі Выдавецкага дома «Звязда» Алена Карпенка.**

Кніжны марафон «Калядная казка», які праводзіўся ААТ «Белкніга» і Выдавецкім домам «Звязда» ў межах рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне» ў сталічным Доме кнігі «Светач», пазнаёміў з сучаснымі дзіцячымі творамі і іх аўтарамі. Са сваімі кнігамі ды персанажамі дзяцей і дарослых пазнаёмілі айчынныя пісьменнікі Анатоль Зэкаў, Віктар Кажура, Галіна Пшонік і Яна Явіч.

Акрамя літаратараў, у імпрэзе ўзялі ўдзел вучні пачатковых класаў сталічных гімназій № 14 і № 23. А тых гасцей сустрэчы, якія набывалі кнігі з аўтографамі аўтараў, чакалі зніжкі. У выніку ні дзеці, ні дарослыя не засталіся без падарункаў і святочнага настрою!

**Арына КРАЙКО**

# Караткевіч прызямліўся ў Серабранцы

**Водгулле юбілею славутага пісьменніка ўсё не сціхае над сталіцай: творы У. Караткевіча чытаюцца, абмяркоўваюцца, перакладаюцца, перавыдаюцца…**

Публічная бібліятэка № 7, што ў мінскім мікрараёне Серабранка, правяла XX паэтычныя чытанні, прысвечаныя памяці Уладзіміра Караткевіча. Мерапрыемства было арганізавана ў супрацоўніцтве з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Адкрыла вечар паэтэса Іна Фралова. Яна прывітала гаспадароў і гасцей бібліятэкі, назваўшы гэтую пляцоўку сапраўдным культурным цэнтрам Серабранкі. Таксама творца нагадала асноўныя даты пачатку творчага шляху Уладзіміра Караткевіча. Слухачы паўдзельнічалі ў віктарыне на веданне біяграфіі і літаратурнай спадчыны пісьменніка, а пераможцы атрымалі ў падарунак кнігі аўтараўсяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Затым перад публікай выступілі паэты — сябры Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

Паэтэса Ірына Тулупава прыгадала свае ўражанні ад чытання рамана «Каласы пад сярпом тваім» у перакладзе на рускую мову і ў арыгінале, а таксама прачытала прысвечаны гэтаму досведу верш. Таісія Трафімава, якая выконвала ролі ў спектаклях паводле п'ес Караткевіча ў Мінскім абласным драматычным тэатры ў Маладзечне, распавяла пра свае асацыяцыі падчас чытання рамана «Чорны замак Альшанскі» і нагадала пра старадаўнія значэнні літар кірылічнага алфавіта, а таксама прадэкламавала фрагмент з аўтабіяграфічнай паэмы «Вёска пад ліпамі». Ала Чорная, сябар СПБ і Саюза пісьменнікаў Расіі, узгадала, як удачна адшукала першае выданне рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ў Мінску ў 1972 годзе. Паэтэса распавяла, што ў тыя гады адна з яе супрацоўніц у Інстытуце фізікі чытала часопісную версію «Дзікага палявання», нават не зважаючы на тое, што не ведала беларускай мовы. Прыгадалі пра сваё знаёмства з творамі Уладзіміра Караткевіча і прачыталі ўласныя творы таксама паэтэсы Таццяна Лебедзева, Алена Шчарбакова і Анастасія Кузьмічова.

Зміцер Пятровіч, літаратар і рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», у сваім выступе нагадаў пра перспектывы выдання чарговых тамоў поўнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча, а таксама праспяваў песню на верш «Бацькаўшчына». Прагучалі ў яго выкананні таксама пакладзеныя на музыку вершы Міхася Башлакова і Міколы Шабовіча, пераклады на беларускую мову вершаў Таццяны Ляйко.

Паэт і бард Аляксандр Вашчанка згадаў пра нялёгкі творчы лёс Уладзіміра Караткевіча, пра цяжкасці, з якімі той сутыкаўся пры публікацыі твораў, пра недаацэненасць аўтара пры жыцці, і прывёў такую цытату з ліставання Уладзіміра Караткевіча з Ларысай Геніюш: «Нават проста для таго, каб быць беларускім пісьменнікам, патрэбна мужнасць». Аляксандр Вашчанка адзначыў, што Уладзімір Караткевіч быў жывым чалавекам са сваімі слабасцямі і прыхільнасцямі: славіўся вялікім гурманам і аматарам старадаўняй беларускай кухні. У пацвярджэнне сваіх слоў Аляксандр Вашчанка прадэкламаваў верш «Заяц варыць піва» і працытаваў фрагмент з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», дзе апісваецца шляхецкае застолле з выкшталцонымі старадаўнімі стравамі. Таксама ў выкананні Аляксандра Вашчанкі прагучалі песні на ўласныя словы і на вершы Паўлюка Труса — пра снег і зімовыя краявіды, якіх усім так не ставала гэтым снежаньскім вечарам.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**



Аляксандр БЫКАЎ

***

*У гэтым свеце кожны за сябе —*
*Няважна: ён чароўны ці астрожны.*
*І лёсы зноў губляюцца ў гульбе,*
*Дзе ў адзіноце застаецца кожны…*

*І, як заўсёды, — недзе там шчыміць,*
*Як ранак расчынаецца барвовы.*
*Бо немагчыма, як ні хмур ты бровы,*
*Дзень першы ўспомніць,*
*заўтрашні — забыць.*

## Міколу Шабовічу

*Груша голлем змакрэлым*
*Ледзь варушыць са сну…*
*Скрэслю аркуш я белы,*
*Ды ізноўку пачну.*

*Ні зімы табе ладнай,*
*Ні ружовенькіх шчок.*
*«А на нашы каляды*
*Ты прыедзеш, сынок?..»*

*Белы аркуш скамячу,*
*Ўсё папраўдзе яно.*
*Голас мроіцца матчын.*
*Быў нядаўна ж… Даўно…*

## Студзень

*Усё гарчэй*
*надзей сатлелых дым,*
*Маю душу і сэрца ён*
*аблапіў.*
*Ці не таму я ў свеце*
*паўпустым*
*Святкую з тым,*
*хто пад руку патрапіў?!*

*Якім бывае мілым*
*здрады твар,*
*І засаўку я прыадкрыць гатовы…*
*Ды сонца ўсход,*
*пранізліва-пунсовы,*
*Засцерагае зноўку*
*ад пачвар.*

## У лазні

*Бліскучых труб іржлівая грае медзь*
*Над прорваю, што паглынае мары…*
*Ды ўсё ж не станем з роспачы сквірчэць,*
*А лепей ад душы падкінем пары!*

*Ад спраў нікчэмных і пустых прамоў*
*Хай на душы пакутліва і сыра,*
*Пра сумнае не будзем мы. А зноў*
*Ядлоўцам па спіне пацягнем шчыра.*

*Бо нам яшчэ патрэбна песню спець*
*З нагоды у сяброўскае бясседзе,*
*І сэрцам зведаць, як цьмянее медзь*
*Забытых труб у сутарэнні недзе.*

***

Т. Б.

*Зноў студзень пачынаецца з макрэчы,*
*Няма парадку ў каралеўстве зім…*
*Ды ранак наш — яшчэ ён не старэчы,*
*І подых весні ў поглядзе тваім.*
*Яшчэ нас напаткаюць крыгаломы*
*І ў небе праспяваюць жаўрукі.*
*І недзе там, за рысай невядомай,*
*Ізноў тваёй я папрашу рукі!*

## На Будслаўскім фэсце

*Да Маці Будслаўскай —*
*з надзеяй і ласкай*
*Я шлях свой пачаў.*
*У храме чароўным*
*пад спеў малітоўны*
*І я памаўчаў…*

*Хоць позна, ды венчаны —*
*і я там укленчыў*
*На момант які.*
*У неба ў абдымках —*
*мая пілігрымка*
*Ляціць праз вякі!*

***

*За плугам пахадзіць калі —*
*Яно патрэбна.*
*Бо пачынаецца з раллі*
*Наш шлях да неба.*

*Ці ранак выбухне наўсцяж,*
*Ці вечар ляжа —*
*Зямны заўжды пачатак наш*
*І доля наша.*

*І ўшчэнт душу хоць пакрышы,*
*Пакінь агрызак —*
*Да неба цягнуцца крыжы,*
*І нават прысак…*

*І недзе там, дзе зорак стос*
*Хавае тайны,*
*Шлях пракладзе зноў да нябёс*
*Араты дбайны!*

***

*Як вечнасць — храм. Вячэрняя імша*
*Спакой мне дорыць, веру і надзею.*
*І быццам адраджаецца душа,*
*Што страты спрэс прымала*
*за падзеі.*

*Я не ўнікаю ў словы святара,*
*А проста рады гэтай вось спатолі, —*
*Вады крынічнай — бы глыток з вядра, —*
*Што ад спакус ратуе і ад болю…*

*Калі душа разбэшчваецца ў хлам,*
*Калі гібее ад хлусні і здзекаў,*
*Успомніце: стаіць, як вечнасць, храм.*
*Якіх яшчэ шукаць патрэбна лекаў?!*

***

*Палёты наяве і ў сне,*
*Апошнія лета грымоты…*
*І роспач на міг ахіне,*
*І сцісне душу ад самоты.*

*І дзень нечакана зляціць*
*З пабляклага неба падранкам,*
*І ён дакляруе нам быць*
*Са здрадлівай цемрай да ранку.*

*І ў тых сутарэннях ізноў*
*Так лёгка заблытаца ў скрусе …*
*Ды сонца ўстае з-за бароў*
*І бохан ляжыць на абрусе.*

*Адвечны жыцця калаўрот,*
*І ёсць шчэ пачуцці ды мэта.*
*І будзе яшчэ умалот —*
*У сейбіта і у паэта!*



Фота Кастуся Дробава.



Таццяна ШУРЫНАВА

## Калыханка для роднай зямлі

*Заціхае шэпат над лугам,*
*І туман кладзецца ў лагчыны…*
*Ахінае вечар утульна*
*Працай стомленую краіну.*
*Вецер ёй спяе калыханку,*
*Прынясе ў хату пах чабаровы,*
*І тады аж да самага ранку*
*Ён схаваецца ў цёмных дубровах.*

*Зорны дождж над возерам пройдзе*
*Там, дзе лебедзь ранкам купаўся…*
*Ты нідзе на свеце не знойдзеш*
*Лебядзінага гэткага танца!*
*Птушаняты ў гняздзе паснулі,*
*Дым над вогнішчам лёгкі віецца…*
*Месяц ходзіць у белай кашулі,*
*Ён пазней за ўсіх спаць кладзецца.*

## Мая Радзіма

*Зачараваная, гляджу ў твае азёры,*
*Паветра свежае ўдыхаю я ў лясах.*
*Мне не патрэбны далеч або мора,*
*Каб сонца бачыць у бярозавых гаях!*

*Мая радзіма! Нібы звонкая струна,*
*Гучаць наўкол палі жытнёвай песняй.*
*На белых крылах спачывае даўніна,*
*Што над маёй зямлёй буслы панеслі.*

*Твае бары, і чараты, і вербалозы,*
*І чабаровы пах гайдае вецер…*
*А за сялом — расы празрыста-белай*
*слёзы…*
*Ты для мяне — адзіная у свеце!*

*Мая Радзіма упрыгожана святлом,*
*Што праз гады ніколі не згасае.*
*Мая Радзіма — гэта мой утульны дом,*
*Дзе песня радасці адвечная лунае!*

## На зямлі азёрнай цішыні

*Сонейка гарыць на хлебных нівах,*
*Рассыпае промні дабрыні.*
*Я хачу, каб людзі жылі мірна*
*На зямлі азёрнай цішыні.*
*Сустракаць буслоў люблю вясною,*
*Як яны дадому прыляцяць.*
*Любавацца ранняю парою,*
*Як палі расою зіхацяць.*
*Светлымі сунічнымі барамі*
*Тут вандруе вецер малады…*
*Ён гуляе пушчамі, лясамі*
*Ды рамонкі лашчыць ля вады…*
*Свеціцца вясёлка ў ясным небе,*
*А мяжа сінее васільком…*
*Я хачу, каб стала жыта хлебам,*
*Што сям'ю збірае за сталом!*
*Да сябе гасцінна запрашае*
*Ветлівая, добрая зямля.*
*Рабацінкі сонца рассыпае*
*І плыве на небе цішыня…*



Наталля ЦВІРКО

***

*Дакраніся да маёй самоты —*
*І заззяюць зоркі уначы.*
*Прагані хутчэй ты адзіноту,*
*Хай ніколі сэрца не маўчыць.*

*За акном у квецені у белай*
*Спевам птушак прывітае май.*
*Усміхнуся светла і нясмела,*
*Толькі вер заўсёды і кахай.*

***

*Як сэрца імкнецца да зорак,*
*Туды, дзе шырокі прастор!*
*Не ведаць ні смутку, ні гора,*
*А толькі святло гэтых зор.*

*Жыццё — быццам дзіўная казка,*
*І цудаў у ім не злічыць.*
*І мы не чакаем падказкі,*
*Каб верыць і шчырымі быць.*

*А што чалавеку патрэбна?*
*Спагада, душы цеплыня.*
*Святлом месяцовым хай срэбным*
*Заззяе надзея твая!*

***

*Як прагнаць мне твой сум у цішы*
*вечаровай?*
*Саматканы кілім восень сцеле на дол.*
*Я іду да цябе звонкай сцежкай вясновай,*
*Толькі ўжо лістапад залаты за акном.*

*Як табе расказаць прыхаваныя словы?*
*Абяцанняў няма, толькі шчырасць*
*душы.*
*Ты ідзі да мяне звонкай сцежкай*
*вясновай,*
*Ты каханне маё назаўжды беражы.*

***

*Нам не жыць без тых, каго кахаем,*
*І як часта, нават з небыцця,*
*Мы з далёкай далі іх гукаем*
*Дзесьці там, за межамі жыцця.*

*Будзе зноў вяртанне і спатканне,*
*Калі верыш — збудзецца усё.*
*Беражы надзею і каханне,*
*Беражы, каб не згубіць жыццё.*

АЛЕНА СТЭЛЬМАХ



# Ленка і Генка

Дарожны рытм аддаленай чыгуначнай станцыі зусім не той, што амаль кругласутачная мітусня паспешлівых пасажыраў у лабірынтах гмаху сталічнага вакзала. Ён такі ж размераны, як і павольны рух жыцця раённага цэнтра, дзе кожны яго жыхар навідавоку. А вось свежыя навіны тут распаўсюджваюцца вокамгненна. Іх выключная аператыўнасць не саступіць хуткаснаму інтэрнэту. Мясцовыя чуткі нярэдка абрастаюць усялякімі падрабязнасцямі, дзякуючы чаму і квітнее безлімітная сарафанная сувязь. Бывае і так: у цэнтры скажуць, што чалавек шлюбам пабраўся, каля міліцыі — з цешчай не памірыўся, каля царквы — Богу душу аддаў. Калі раптам пры перадачы «гарачага» факта здарыцца асечка — суразмоўца ніякавата пацісне плячыма, месцічы тут жа, як на картах, разложаць, чый кум, сват або сусед спрычыніўся да нашумелай гісторыі, і адразачку стане зразумела, каго песціць чужыя языкі.

Той, хто зведаў асалоду жыцця ў такім ціхаплынным гарадку, атабарыўся ў ім як след, у шумны мегаполіс выбіраецца толькі па вялікай патрэбе. Навошта сябе напружваць сталічным тлумам, калі ўсяго хапае і тут? Хаця лёгкая на пад'ём моладзь прылаўчылася на вучобу курсіраваць штодня. Кошт чыгуначнага квітка ашчадны, не дужа б'е па сціплай студэнцкай кішэні.

Пасажыры дысцыплінаваныя: з запасам часу да прыбыцця электрацягніка разыходзяцца па ўсёй даўжыні перона. Патупваючы, час ад часу пазіраюць ў бок бліскатага лязіва чыгункі, падпільноўваюць, калі з-за павароту вышмыгне вёрткая змейка блакітных вагонаў.

Спазняюся. Ведаю, што ўвесь перон хвалюецца за спешку рызыкоўнага пасажыра. Сама неаднойчы такіх летуноў у думках стрыножыла: куды цябе пад самыя колы ліха нясе?! Яшчэ некалькі імклівых крокаў, і я ў ліку чаканнікаў — вырываецца ўздых палёгкі, знікае агульная напружанасць. І раптам паветра скаланае гучны вокліч. Да слыху дзясяткаў двух спудзаных ад яго пасажыраў далятае:

— Ленка, цябе ж уся турма ведае!

Бытта над рэйкамі абарваўся высакавольтны электрычны провад і магутны зарад праняў цела з макухі да пят — так на мяне абрынулася нечаканая радасць.

Ззаду колы электрычкі набліжаюць сваё мернае «так-так». Спераду ззяе ўзрадаваны твар, прызнаць які мушу не адразу. Хаця і ў абліччы, і ў бравай пастаці апранутага ў элегантнае чорнае паліто мужчыны ўлоўліваю знаёмыя рысы. Ды і ў вокліччы прызнаю падабенства з пераможнымі крыкамі індзейцаў, гульня ў якіх была любімай, калі школай ездзілі на бульбу.

— Гэта ж я, Генка! Няўжо так змяніўся? — нагадліва аднаўляе знаёмства былы аднакласнік.

Люблю дарогу за такія вось мімалётныя сустрэчы-неспадзяванкі. Раптоўна, нібы з-пад зямлі, узнікне той, пра каго і думаць забыўся. Толькі свідравала голаў думка, як сцярпець надакучлівы час паездкі, а ўжо захопліваюць у палон успаміны, льецца гамонка і мільгаюць за акном слупы. Усяго ў нейкую гадзіну ўкладзецца жыццяпіс пройдзенага, перажытага за ладны адрэзак часу. У такія сціслыя для размовы хвіліны субяседнік асабліва адкрыты, гаваркі, нават спавядальны ў сваіх звярушлівых прызнаннях. Набалелым — і пра радасць, і пра гора — праніклiва дзеліцца з роднаснай душой. Калі яшчэ пабачымся, павядзём казанкі? Выканае цягнік сваю падарожную місію, стомлена крэкне на вакзале, зноўку разбрыдзёмся па сваіх сцяжынах-пуцявінах. Толькі гаворанае яшчэ доўга не выйдзе з галавы…

Генка ўвесь у бацьку: рослы, шырокі ў плячах, вабкі з твару. Дзяўчаты, асабліва з меншых класаў, затрымліваюць позіркі на такіх заўважных кавалерах. «Даўно б кінуў усе буквары», — пасмальваючы цыгарку, фасоніста пахваляўся перад аднакласнікамі перарастак сваёй самастойнасцю. Яго дарослыя памкненні стрымлівала ўпартая сістэма адукацыі, адпаведна якой восем гадоў як лёду павінен адбыць у школе.

Ужо з першых дзён навучання стала зразумелым: педагогіка ад новага вучня паплача! Не сказаць, што Генка задзіраўся, быў бітлівым. Абурала яго настойлівае нежаданне вучыцца і зайздроснае памкненне малога ашавурка перыядычна знікаць у невядомым кірунку. У класе чацвёртым шукалі згубу амаль месяц, пакуль міліцыя не зняла валачая з цягніка недзе пад Масквой.

Выкарыстаўшы ўвесь наяўны арсенал метадаў уздзеяння на «цяжкога» падлетка, наватары школьнай педагогікі вынайшлі новы спосаб выхаваўчага ўплыву — выправілі атрад выдатнікаў да Генкі дамоў.

Сям'я жыла на першым паверсе двухпавярхоўкі, наспех збудаванай у пасляваенны час і разлічанай на чатырох гаспадароў. Бацька, чалавек здатны да пяра і здольны да творчасці, цвёрда абяцаючы ў чарговы раз з выпіўкай завязаць, не паддаваўся выпраўленню, заўзята тапіў свой талент у бутэльцы. І Генка, і такі ж свавольнік, яго меншы брат Косцік, з дзяцінства не ведалі строгасці бацькавай папругі. Дастатак у кватэры, як і наогул дабрабыт усёй сям'і, ствapала маці — пнулася з усіх сіл.

Пасля ўрокаў (апошні з каторых не дабыў) Генка валэндаўся ў двары, дзе сябры тузаліся з лятальным апаратам, злаваліся, бо той ніяк не ўзлятаў. Калі Генка ўгледзеў рашучыя постаці ваяўніча настроеных аднакласнікаў, узрадаваўся сваёй абачлівасці. Яму ставала часу на тое, каб знікнуць незаўважаным, крадком прабраўшыся за вугал дома.

На патрабавальны званок напорыстых гасцей дзверы адчыніла маці.

Жанчына сумелася пад позіркам пяці пар вострых агеньчыкаў дзіцячых вачэй. У яе пабляклыя блакітныя вочы ўжо даўно не заглядалі іскрынкі радасці. Яна была самаадданай абярэжніцай траіх бязладкаў, спажыўцоў яе самаахвярнай дабрыні. І што з таго мела? Піянеры, непрымірымыя барацьбіты з гультаямі і двоечнікамі, старанна выконваючы загад настаўнікаў, наперабой сарамацілі жанчыну за лайдака-сына, пагражалі выключыць яго са сваіх радоў. Зажураная, змаркочаная маці маўкліва слухала паспяховых аднагодкаў сына, нават спрабавала ўтрымаць на твары ўсмешку, але яна была такой жа балеснай, як і яе збалелая душа.

Назаўтра на першым уроку Генка настойліва цягнуў руку ўгору. Нязвыклы да такога яго старання настаўнік ухваліў адказ і, няхай сабе авансам, вывеў у дзённіку вялікую пяцёрку. Але такога гарачага імпэту да вучобы распушчанаму шалапуту хапіла толькі на адзін дзень…

У канцы восьмага класа Генка ўсё ж пасур'ёзнеў, нібыта прымірыўся са школьным парадкам, амаль перастаў прагульваць урокі. Як ведаў, што атрымае першы і апошні ў сваім жыцці афіцыйны дакумент аб адукацыі. Пасля ўрачыстых выправін, дзе выдалі пасведчанні аб заканчэнні васьмігодкі, Генка на развітанне махнуў рукой і з палёгкай ад нарэшце скончанага абрыдлага вучэння мімаходзь кінуў: «Я — у вольнае плаванне…»

Маладая вясна буяла квецённю апантаных жыватворным цяплом садоў. Па краіне шпарка крочыла перабудова. Галоўнай яе прыкметай сталі хвастатыя чэргі не толькі ў саміх магазінах — іх ланцужкі захоплівалі і прылеглыя двары. Настойлівыя пакупнікі самаададана бавілі гадзіны, а то, робячы адзнакі на руках, і дні ў спадзяванні дачакацца якога-небудзь выкінутага ў гандаль тавару. За безнадзейную справу рупна ўзяліся нечакана ўзніклыя камерсанты, чэпка ўхапіліся за латву гандляваць. У народзе іх яўна незалюбілі, раней такіх даставанцаў за спекуляцыю нават волі пазбаўлялі. Ды падзецца не было куды — ногі самі вялі да наспех зладжаных, але вельмі ўжо спакуслівых шапікаў з аднекуль здабытым таварам.

Вестка пра такі шапік, адкрыты на «лобным» месцы — ля царквы, імгненна трапіла на «канал» местачковай самадзейнай сувязі. Даходныя кабеты хутка дазналіся, што за нехрыст, не баючыся граху, разводзіць камерцыю ў святым месцы. Не сумняваліся ў добрай «падмазцы» ўладам, калі тыя далі такі рызыкоўны дазвол. Расчаравана хіталі галовамі: навошта вера, калі ёсць грошы?..

Да агульнага дзівавання, шапік акупіраваў Генка. Калі б гэта не быў яго родны горад, дзе ведалі ўсю паднаготную павяртанца, прынялі б за маладога перспектыўнага бізнесмена. Які, між іншым, ён, раздзімаючы шчокі, і прадстаўляўся. Але то быў Генка, якому не давала спакою доўгажаданае, затоенае ў самай глыбіні душы яшчэ з маленства: адпомсціць сваім крыўдзіцелям — узняцца над усімі. І прабіраўся ён да гэтага сваім абраным шляхам.

Да бачнага здалёк шапіка падыходзілі цікаўныя. Аднак зладзеяваты Генка, маючы з акенца шырокі агляд усёй плошчы, пільна высочваў знаёмцаў і моцным, як рупар, голасам заклікаў да сябе. Глыбокай стрэмкай сядзела ў ім спакуса зачапіць за жывое. Ім кіравала жаданне давесці месцачкоўцам, хто цяпер гаспадар жыцця. Мякка слаўся перад настаўнікамі, улагоджваў іх.

— Хіба на талоны такое купіш? — з веданнем справы разважаў навачасны багацей і тут жа фанабэрыста дадаваў: — Чуў, заробкі вашы мізэрныя. Але нічога, на мае гасцінцы грошай хопіць, вам саступлю, — і тут жа кідаўся раскладваць перад пакупніком жуйкі, «Марсы», «Снікерсы».

Яго кампанейцам быў не хто іншы, як узмужнелы Косцік, які, каб не ісці ў армію, злаўчыўся займець двух нашчадкаў.

Звыклы да блудадзейнага жыцця Генка, як сапраўдны хвастакрут, не мог доўга ўседзець на адным месцы і, задаволіўшы сваё самалюбства, аднойчы кінуў малапрыбытковы па яго мерках бізнес, чыркануў на паперцы дэфіцытным на той час фламастарам: «Тэхнічны перапынак» — і знік. Няшчасны лісток доўга шкуматала непагоддзе, ад дажджу пацяклі літары, пакуль запусцелы шапік не прыбралі з плошчы...

Тое, у многім дзіцячае, найгранае, ветранае стала даўнім. Праз гады такое звычайна ўспамінаецца з лёгкім гумарам. Колішні Генка ўжо быў Генадзь Пятровіч, самадастатковы мужчына. Менавіта такім ён здаўся на першы погляд. Выклікаў павагу і тады, калі па-джэнтльменску прапусціў жанчын у вагон. Па ўсім было відаць, яму карцела хутчэй пачаць аповед, а мне — дазнацца, як прыйшла нечаканая слава.

— Ты ва ўніверсітэце колькі гадоў вучылася? Пяць? — пачаў Генка здалёк і тут жа, як дасведчаны прайдзісвет, перайначыў на свой лад: — І я столькі ж часу граніт навукі грыз, ад званка да званка. Без экзаменаў прынялі, — нервова зарагатаў. — Нават наручнікі надзелі — толькі б не перадумаў.

Як высветлілася, за краты «бізнесмен» трапіў тады, калі пасля гандлю ўсялякай драбязой з такімі ж разумнікамі, як і сам, спрабаваў перавесці на «левыя» рэйкі чыгуначныя вагоны з сыравінай. Яго падштурхоўвала ахвота пахваліцца адмысловай вучонасцю, прыдбанай у няволі. Яшчэ больш бессаромны, мецiў і ўкалоць: маўляў, хто з нас цяпер граматнейшы? Але тое, што я зарабіла сярод яго хаўруснікаў аўтарытэт абсалютна законным спосабам, пераважыла самога Генку, не давала яму яхіднічаць.

Зараз, калі сядзелі вось так твар у твар, можна было разгледзець аднакласніка не толькі звонку, але і зазірнуць у яго гнілаватае нутро. Насцярожана-недаверлівыя і ў той жа час ліслівыя вочы глядзелі паўз мяне, блукалі, быццам нешта шукалі, па ўсім вагоне. На вадзенькіх жаўтавата-шэрых зубах укарэла брудзь спецыфічнага напою, да якога, як вядома, ласыя ў вязніцы. Тое, што ён са смакам паспытаў казённага хлеба, больш за ўсё выдавалі пасінелыя рукі, старанна скалатыя з усіх бакоў па своеасаблівых турэмных правілах. Падумалася: вось дык дыплом выпісала яму жыццё — нязмыўны, з асаблівай адзнакай.

«Папулярнасці» свайго імя ў турме я, безумоўна, была абавязана Генку. Калі той прачытаў у надзвычай запатрабаванай сярод зняволеных «Дэтэктыўнай газеце» матэрыял за маім подпісам, заганарыўся. Не кожны вадзіў сяброўства ў журналісцкіх колах, тым больш з аднакласніцай. Такая «таварышкавасць» у сценах, абмежаваных кратамі, мела высокі кошт.

Вось яно, слова друкаванае, як адгукнецца… Хоць і прыслалі ганарар — не раўня іншым газетам, больш пісаць пра крымінал не стала, не па мне смакаванне жахаў, танны наяве такі радок.

Генка выдаваў сябе за шанцоўніка, выхваляўся, што багацюткі, што розум незвычайны мае. Ажаніўся з дачкой вялікага начальніка ў Падмаскоўі, той яму ва ўсім спрые. На прыпынку мой спадарожнік спрытна скокнуў з прыступкі вагона, і зноўку яго падхапілі вірлівыя бруіны жыцця… А мяне не пакідала ёлкасць пачуцця ад перакручанага лёсу блізкага з маленства чалавека…

Гадоў праз сем, на тым жа прыпынку, здаля выпадкова прызнала аднакласніка. Непатапляльны раней Генка быў нездаровы з выгляду, няхоцькі ўсміхнуўся. Перада мной туліўся ў каўнер таго ж, толькі зношанага, паліто сціхаміраны гаротнік. Крымінальнае асяроддзе — яго стыхія і лад жыцця — ператварыла самаўпэўненага фраера ў нямоглага калеку. Генка з нейкай дзіцячай нявіннасцю прызнаўся: тыя, з кім братаўся, парэзалі так, што дактары сшывалі па частках, ледзьве акрыяў. Ён не пайшоў у вагон, затрымаўся ў тамбуры, нябачна растварыўся ў людзях, у часе, у мроях… Якую цяпер лёсаву ласку мае? Спадзеву на тое, што стрэнемся, парукаемся, стала меней. На маршрутцы мне ездзіць зручней.

# Гартаючы старонкі...



**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**загадчык секцыі крытыкі СПБ:**

Кажучы пра тое, чым быў адметны 2015 літаратурны год, найперш згадваю дзве важныя падзеі. Першая з іх адначасова і юбілей, няхай і маленькі, — дзесяць гадоў Саюзу пісьменнікаў Беларусі. Прыемна і тое, што нашая дзяржава належна падтрымлівае таленты. Сведчанне таму — прысуджэнне ў 2015 годзе першых Нацыянальных прэмій у галіне літаратуры.

Прыкладам, Нацыянальнай прэміі за кнігу прозы «Няма шляху чужога» ўдастоены Уладзімір Саламаха. Назву ёй дала аднайменная аповесць, працяг якой «Не цурайся веры сваёй» надрукаваны сёлета. Гэты твор, а таксама раман Уладзіміра Гніламёдава «Пасля вайны» — лепшыя празаічныя набыткі 2015-га. Дарэчы, У. Саламаха ўпэўнена заваёўвае і расійскую літаратурную прастору, тройчы публікаваўся ў часопісе «Наш современник». І яшчэ: з вялікім поспехам па Беларускім радыё прайшоў радыёспектакль «І няма шляху чужога».

З паэтычных публікацый асабліва парадавалі вершы Казіміра Камейшы, Міколы Маляўкі, Міхася Пазнякова, Ганада Чарказяна. Чытаў іх і не пакідала думка, наколькі гэта вялікая сіла — шчыра прамоўленае паэтычнае слова. Як моцна яно ачышчае духоўна!

Не надта вялікі прыхільнік чытання драматургічных твораў, тым не менш ніколі не прапускаю чарговую публікацыю Георгія Марчука. Дый яго новую п'есу «Альгерд», якую ён прапанаваў часопісу «Полымя», прачытаў яшчэ да публікацыі. Узяўся чытаць і адразу забыўся, што на двары XXI стагоддзе. Імгненна перанёсся на некалькі стагоддзяў назад, трапіўшы ў эпоху вялікага князя Альгерда. Тут талент Г. Марчука ва ўменні ўжыцца ў даўнюю эпоху так, што яна становіцца тваёй. Застаецца толькі дачакацца сцэнічнага ўвасаблення п'есы.

Яшчэ адно падарожжа ў дзень учорашні адбылося дзякуючы кнізе Івана Саверчанкі, названай вельмі арыгінальна — «Ладья сокровищ». У ёй — творы беларускіх пісьменнікаў XIX — пачатку XX стагоддзя. У перакладзе на рускую мову прадстаўлена проза 16 пісьменнікаў і некалькі фальклорных твораў. І. Саверчанка сам пераклаў іх, напісаў грунтоўную прадмову, што па сутнасці з'яўляецца міні-манаграфіяй. Апроч таго, кожнага аўтара суправаджаюць пашыраныя каментарыі. Усё гэта дазваляе гаварыць пра «Ладью сокровищ» як пра аўтарскую кнігу. Асабліва прымаючы пад увагу якасць перакладаў. Узяць хоць бы «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага. Багацце і своеасаблівасць яго мовы перадаць не так і лёгка. І. Саверчанка ж з гэтым паспяхова справіўся.

Алена Мальчэўская, якая летась кнігай казак «Ша-Ша з левага чаравіка» заявіла пра сябе як пра цікавую дзіцячую пісьменніцу, выступіла і ў «дарослай» прозе. Два яе апавяданні — «Без поводка, без повода» і «Связная» пабудаваны на ўспамінах. Адбываецца свайго роду падваенне асобы гераіні: апавядальніца, якая жыве сёння, і тая дзяўчынка, якой яна была некалі. Творы А. Мальчэўскай хочацца не проста чытаць, а перачытваць. Надта ж блізка ўспрымаеш усё тое, пра што яна расказвае. Радуешся таленту маладой пісьменніцы — светламу, лірычнаму і разам з тым не чужому рэчаіснасці з усімі яе адценнямі.

Былі, зразумела, і іншыя цікавыя, значныя публікацыі. Але і згаданых твораў дастаткова, каб упэўніцца, што зямля беларуская, як заўсёды, багатая талентамі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Ксенія ШТАЛЕНКОВА,**
**аўтарка фантастычна-прыгодніцкага рамана «Адваротны бок люстра»:**

Гэтым летам вырашыла пачытаць Хемінгуэя і Дастаеўскага. Першага, да свайго сораму, яшчэ не чытала ніколі, а другі, як падавалася, мне вельмі падабаўся; схацелася азнаёміцца з чымсьці навенькім. Пачала з класічнага зборніка «Фіеста/Свята» і «Братоў Карамазавых». Хемінгуэя чытала неадрыўна, але зразумець сутнасць яго феномена так і не здолела, пакуль не дабралася да месца, дзе ён скардзіцца на Дастаеўскага, кшталту «як можа чалавек пісаць так кепска, але так захапляльна». Хто б гаварыў… Узяла Дастаеўскага… Цікава, ці думалі яны калі-небудзь, што які іншы літаратар *fromthefuture* (а яшчэ і паненка — жах!) пра іх будзе думаць у такіх дуалістычных катэгорыях?..

І ўсё на тым. Няшмат прачытаеш, калі самой пісаць трэба.

Хаця не, лгу. Вядома, чытала рознае з гісторыка-публіцыстычнага абсягу і Каку. Я маю на ўвазе Мічыё Каку — амерыканскага фізіка, які на пальцах тлумачыць тэорыю струн і генезіс фантастычнага сюжэта ў літаратуры з перасоўваннем у часе. Насамрэч, не прыйшлося да густу.

А так, калі для душы і з беларускага, — больш за ўсё спадабалася новая кніга Андрэя Лазуткіна. І нават не тая частка, што дала назву зборніку («Палігон»), а другая, лірычная: яшчэ не бачыла, каб так тонка і пранізліва пісалі ў прозе пра каханне. Шчыра зайздрошчу і нават яшчэ раз перачытаю.



**Віктар ШНІП,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:**

2015 год прайшоў як Год моладзі, і, натуральна, мы не маглі абысці яе ўвагай. Я стаў укладальнікам кнігі «Мой дзень пачынаецца», дзе сабраная проза і паэзія 45 маладых аўтараў. Для адных гэта першая кніжная публікацыя, іншыя ўжо ўваходзяць у Саюз пісьменнікаў. Асабліва прыемна было чытаць прозу. Бачна, што аўтары разняволеныя, не трымаюцца адно за тэму кахання, як часцей за ўсё бывае ў вершах, асабліва напісаных дзяўчатамі. Не, гэта таксама добра — пісаць пра каханне, але ж справа ў тым, што многія з такіх вершаў прадказальныя: я цябе кахаю, жыць без цябе не магу... Не варта забываць, што паэзія — гэта перадусім вобразнасць. Вельмі цікавыя празаікі Ксенія Шталенкова, Яўген Мартыновіч, Алена Мальчэўская, Сяргей Календа, Кацярына Карповіч. Такога кшталту зборнік у нас першы, і мы працягваем праект. Наступная кніга выйдзе ў 2016-м, і, карыстаючыся выпадкам, заклікаю паэтаў і празаікаў, якім яшчэ няма трыццаці пяці, дасылаць свае творы. Толькі, калі ласка, не забывайцеся пазначаць пашпартныя дадзеныя і аўтарства. Цяжка, калі твор непадпісаны, здагадацца, каму ён належыць. Ёсць аўтары адметныя, з пазнавальным стылем, але ў пераважнай большасці галасы вельмі падобныя.

Таксама гэты год прайшоў пад знакам юбілею Вялікай Перамогі. Нямала беларускіх пісьменнікаў удзельнічала ў вайне. На жаль, не ўсе вярнуліся. Дзякуючы ўкладальніку Алесю Бельскаму выйшла кніга паэзіі «Недаспяваныя песні» з творамі, напісанымі да вайны і падчас яе. Больш як трыццаць аўтараў: Змітрок Астапенка, Захар Барсук, Іван Дзенісенка, Алесь Жаўрук... Мікола Сурначоў, чый верш «У жыце стаптаным» усім вядомы. Гэта класіка. Калі б Сурначоў не загінуў на Заходнім фронце ў 1941-м, мы, можа, мелі б яшчэ аднаго народнага паэта.

Упершыню ў сучаснай Беларусі выйшла «Блакадная кніга» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. Так, яна выдавалася 20 гадоў таму па-беларуску, але ўсе наступныя выданні былі расійскімі. Падчас размовы з Даніілам Граніным было вельмі прыемна пачуць, што ён хацеў бы пабачыць і беларускамоўнае выданне кнігі. У свой час мы выканаем жаданне яго і нашых чытачоў.

Да Дня беларускага пісьменства «Мастацкая літаратура» выпусціла кнігу «Шчучыншчына літаратурная» (укладальнік Алесь Марціновіч). Наступны Дзень пісьменства пройдзе ў Рагачове, і ўжо цяпер рыхтуецца зборнік твораў «рагачоўскіх аўтараў». Укладальнік, краязнаўца Міхась Казлоўскі вось-вось здасць рукапіс кнігі. Змест уражвае: Уладзімір Караткевіч, Міхась Лынькоў — з дзясятак беларускіх класікаў. І гэта не гаворачы пра пісьменнікаў, што, як гаворыцца, ідуць другім і трэцім эшалонам і таксама паказваюць годны мастацкі ўзровень.

Зразумела, мы выдавалі, выдаём і будзем выдаваць творы для дзяцей. Вельмі харошая кніжка атрымалася ў Сяргея Мінскевіча — «Вялікія прыгоды Какоса Маракоса», Сяргея Давідовіча — «Дзедава жалейка». І яшчэ раіў бы звярнуць увагу чытачоў на перавыдадзенае Івана Сяркова: аповесці «Мы з Санькам у тыле ворага», «Мы — хлопцы жывучыя», «Мы з Санькам артылерысты». Многія на гэтых творах выраслі, я сам чытаў і перачытваў іх бясконца. У мяне быў сусед Санька, і здавалася, што кніжка пра нас. Гэтак жа здавалася, што «Палескія рабінзоны», дзе ёсць герой Віктар, — пра мяне. Хацелася працягу прыгодаў, хацелася фантазіраваць. Гэта і ёсць таленавітыя кнігі, якія выклікаюць жаданне ствараць, якія так захапляюць.

Днямі выйдзе з друку кніга пра ўсім вядомага песняра — «Уладзімір Мулявін. Сэрцам і думамі». А пасля Новага года — кніга пра Кузьму Чорнага (серыя ЖЗЛБ). Мяркую, яна станецца сапраўднай падзеяй.

# Паэзія ў авангардзе

*ЛіМаграфія*

Здавалася б, 2015 год быў такі ж літаратурна актыўны, як усякія іншыя. Пастаянна нешта чытаеш, нешта пішаш, час ад часу кажаш сам сабе «хм, а вось гэта цікава». Але калі справа дайшла да таго, каб падвесці вынік, застываеш у разгубленым маўчанні. І не ты адзін.

Пэўна, справа ў тым, што не з'явілася па-сапраўднаму выбітнай празаічнай кнігі. Калі не лічыць надрукаваную трэцюю частку «Авантураў Пранціша Вырвіча» Людмілы Рублеўскай, пра сёлетнюю прозу ўвогуле мала што скажаш. Дый «Авантуры...» гэтым разам прайшлі без той увагі, што выпала папярэднім часткам трылогіі: друкаваліся яны ў «Полымі» ў некалькіх нумарах, а гэта зусім іншая справа, чым кніга, — лічы, асобны жывы арганізм. Але, думаецца, кнігу мы яшчэ прычакаем.

Таму пальму першынства сёлета можна ўпэўнена аддаць паэзіі. Тут і выбранае Леаніда Галубовіча — «Поўня» (увогуле, гэты аўтар нячаста радуе чытача, але калі такое і надараецца — то сапраўды ў радасць); тут і «З'яўленне інфанты» Людмілы Рублеўскай (яе мы бачым у друку часцей, але гэта не значыць, што новы зборнік паэзіі можна прамінуць, — ён варты чытацкай увагі). Аматары літаратурнай перыёдыкі мусяць памятаць Ігара Канановіча — яго вершы заўжды былі адметныя эмацыянальнасцю, закаванай у класічную форму, лірычнасцю, якая не ператваралася ў банальны салодкі радок. Сёлета ўрэшце выйшла яго першая кніга — «Астэроід». Мы пісалі пра яе (рэцэнзія «Жарсці над цёмнай вадой» змешчаная ў № 33), як пісалі і пра кнігу Любові Турбіной «Москва — Минск» (№ 34). Згадаем у гэтым шэрагу «Каштаны ў кішэнях» Наталлі Русецкай: паэтычная формула зборніка была вызначаная як «прырода + дарога + каханне» (№ 32).

2015-ы яшчэ і год перавыданняў, збораў твораў. Знакавая падзея ў выдавецкай — і літаратурнай, вядома ж, справе — заснаванне серыі «Мая беларуская кніга». 26 кніг беларускай класікі ў адзін момант з'явіліся на паліцах кнігарняў, і — нарэшце! — у кішэнным фармаце. Слова «нарэшце» тут ключавое: школьнікі і студэнты змучыліся ў пошуках Шамякіна, Адамчыка, Ластоўскага і іншых класікаў. Дый папулярнага ў выдаўцоў Быкава і Караткевіча не заўсёды зручна браць з сабой: усё ж фармат «покет» перад звыклай «цаглінай» мае шмат пераваг. Цешыць і кошт новых выданняў, і тое, што яны вяртаюць паўзабытыя імёны, — Саламею Пільштынову-Русецкую, Майсея Кульбака... Спадзяюся, поспех праекта натхніць выдаўцоў на новыя подзвігі.

І, як кожны папярэдні, гэты год для «ЛіМа» — год знакавых юбілеяў. Вядома ж, усе іх не адзначыш — прынамсі, у друку. Але мы стараліся. Пісалі пра Кузьму Чорнага, Петруся Броўку, Уладзіміра Жылку, Уладзіміра Дубоўку, Рыгора Барадуліна, Андрэя Макаёнка, Яна Скрыгана, Сяргея Палуяна, Уладзіміра Караткевіча, Міколу Аўрамчыка, Францішка Багушэвіча, Васіля Зуёнка, Лідзію Арабей, Кандрата Лейку, Міколу Арочку. Пісалі, канечне, не толькі мы. Львіная доля працы — за пазаштатнымі аўтарамі, сярод якіх і вядомыя навукоўцы, і сваякі пісьменнікаў, і іх калегі. Налета аддзел крытыкі спадзяецца на такое ж плённае супрацоўніцтва.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Натхняе на вынаходлівасць

**Знаёмства са старонкамі паэзіі часопіса «Маладосць» пакідае самае добрае ўражанне. Праўда, у аглядах новых літаратурна-мастацкіх выданняў супрацоўнікі газеты больш звяртаюць увагу на прозу, чым на паэзію. Каб аднавіць справядлівасць, лепш за ўсё дачакацца снежаньскага нумара і выказаць агульнае меркаванне.**

Верагодна, «Маладосць» — 2015 стала самым гасцінным выданнем для маладых паэтаў. Так павінна быць паводле назвы, але даўнія чытачы памятаюць і іншыя часы... Сёлета ў «М.» друкаваліся многія вядомыя аўтары: Васіль Вітка, Анатоль Зэкаў, Людка Сільнова, Віктар Шніп, Фелікс Баторын і інш. — аднак перавага засталася за творцамі, імёны якіх з'явіліся на старонках перыёдыкі нядаўна. Гэта аптымістычны і непрадказальны Мікіта Найдзёнаў, узрушаная, часам трагічная Анастасія Кацюргіна, будучы сацыёлаг Кася Глухоўская — аўтар ці не самага чароўнага верша пра Беларусь «Прысвячаецца эмігрантам»...

Сёлета ў «М.» адбылося нямала цікавых літаратурных дэбютаў, між якімі варта адзначыць творы Кірыла Мяцеліцы, Аліны Паўлоўскай, Марыі Чарняўскай, Паўла Дарохіна. Што тычыцца літаратурных форм і жанраў, то гэты год не прынёс вялікіх неспадзяванак: на рахунку аўтараў паэтычных падборак некалькі балад, адзін акраверш і мноства верлібраў. Безумоўны лідар — традыцыйны лірычны верш. Выключэннем сталася творчасць Зміцера Крэса: «Эксперыментуючы з трыялетам, ён вынайшаў форму з дзевяці радкоў, якую і папулярызуе». У вершах З. Крэса радкі паўтараюцца паводле адмысловай схемы (AbBCaAcCB), якая можа зацікавіць аматараў «цвёрдых» паэтычных форм.

Што часцей за ўсё робяць у сучасных вершах лірычныя ды іншыя героі? П'юць каву ды гарбату, услухоўваюцца ў музыку, разважаюць пра жыццё і смерць, чакаюць альбо назаўжды пакідаюць каханага чалавека... Самая папулярная тэма ў маладой беларускай паэзіі — гэта, вядома, тэма кахання, прычым творчасць большасці аўтараў «М.» падпадае пад даўно адкрыты псіхалагічны закон:

*Вершы не пішуцца, калі сыты,*
*Калі спакойны — радка ніводнага,*
*Калі забытыя ўсе малітвы,*
*З цёплых павеваў ветру лагоднага.*
*Толькі з-за жорсткага шторму, буры*
*Слова імкліва ляціць ад сэрца.*
*Каб змог урэшце паэт пахмуры*
*Ім і насыціцца, і сагрэцца.*

(Павел Горбач)

Творцы больш любяць распавядаць пра непаразуменні і драматычныя сітуацыі, чым пра шчаслівае каханне, таму пазітыўныя вершы Мікіты Найдзёнава ці Аліны Паўлоўскай выклікаюць вялікую ўдзячнасць.

*Цікава, што прадстаўніцтва дзяўчат і хлопцаў у сучаснай паэзіі амаль аднолькавае: жаночыя імёны складаюць прыкладна 42% у спісе з сарака трох аўтараў вершаваных падборак, дый тое таму, што між мэтраў старэйшага пакалення пераважаюць мужчыны.*

Цяжка сказаць, што такое рэалізм у паэзіі, але падчас чытання многіх пранікнёных, шчымлівых маналогаў хочацца несупынна крычаць: «Веру!» У вершах, якія трапляюць на старонкі «М.», няма месца літаратуршчыне, аўтар заўсёды адкрыты і шчыры, але надта непасрэдныя душэўныя споведзі падаюцца не столькі мастацкімі творамі, колькі вершаванымі дзённікамі. Больш-менш рыфмаваная плынь думак нярэдка апынаецца кампазіцыйна неаформленай, пазбаўленай цэнтральнай праблемы ці ідэі.

Дзяўчатам, засяроджаным на дачыненнях з каханым чалавекам, хочацца параіць часам пераключацца на праблемы агульнага плана, якіх сучаснае чалавецтва мае з лішкам. Вядома, творцам XXI стагоддзя не ўласцівая вера ў бязмежную сілу слова, якая магла б прадухіліць ваенныя канфлікты і прыродныя катаклізмы. Але паэту пажадана мець шырокі кругагляд і часам фармуляваць погляд свайго пакалення на значныя падзеі эпохі ды нацыянальныя адметнасці ў розных сферах жыцця — што істотна прынамсі перад аблічкам гісторыі. Больш пільна ўгледзецца ў сучаснасць і чалавека дапамагаюць вершы Міхася Бараноўскага ды Касі Глухоўскай.

Між «памылкамі сумлення», «шыбеніцамі кахання», «сіверным адчаем» і сэрцамі, парванымі «на шмаццё» прыемна знаходзіць творы Марыі Чарняўскай, Вікторыі Смолкі, Наталлі Алейнікавай, прысвечаныя гармоніі і прыгажосці. У кантэксце тэмы міжасабовых дачыненняў варта адзначыць падборку Адама Шостака — унікальныя мужчынскія вершы, дзе больш істотнай асобай апынаецца не каханая жанчына, а маленькі сын, якому бацька збіраецца намаляваць тыгра з колішняй сваёй «кніжкі для стрыжкі».

У параўнанні з доўгім усхваляваным расповедам пра сябе больш запамінаюцца творы, дзе паэт уяўляе нешта нязвыклае і апісвае нетрывіяльную сітуацыю альбо здзіўляе супастаўленнем. Як адчувала б сябе вада, калі б была разумнай субстанцыяй? Чым дзяўчына падобная да шафы ці да шклянога келіха? Што думае каменная русалка, калі побач з ёю затрымліваецца прыгожы хлопец?.. Пошук адказаў на незвычайныя пытанні выклікае цікавасць і натхняе чытачоў на вынаходлівасць і крэатыўнае мысленне.

Спадарыні паэтэсы з першага ўздыху імкнуцца захапіць свайго адрасата хваляй роздумаў, запытаў, адчуванняў і часта праз выключную эмацыянальнасць завабліваюць у лёгкую, зіхоткую плынь сваіх вершаў. Спадары паэты часцей імкнуцца засяродзіць увагу на тэксце (а значыць, і на ўласнай творчай індывідуальнасці) праз малаўжывальныя словы, адмысловую пабудову фразы, наўмысную ўскладненасць выказвання.

Калі пра дзявочую паэзію можна разважаць абагульняльна, то вершаваныя падборкі маладых людзей амаль нічым не перагукаюцца. Розніца ў стылі, ладзе мыслення і творчых зацікаўленнях тут больш відавочная, кожная паэтычная нізка — з'ява эксклюзіўная, але эксклюзіўны выраб аднаму да густу, а іншым не. Трэба думаць, што вершы Ігара Палынскага, Андрэя Кімбара, Андрэя Козела, Паўла Дарохіна, Паўла Горбача, Алега Нікуліна калі-небудзь збяруцца ў зборнікі, вартыя асобных вялікіх рэцэнзій. Цікава, што прадстаўніцтва дзяўчат і хлопцаў у сучаснай паэзіі амаль аднолькавае: жаночыя імёны складаюць прыкладна 42% у спісе з сарака трох аўтараў вершаваных падборак, дый тое таму, што між мэтраў старэйшага пакалення пераважаюць мужчыны.

Маладыя творцы мараць пра «далёкі палёт» сваіх вершаў, але ў адрозненні ад папярэднікаў не вельмі засмучаюцца тым, што паэт — ужо не прарок. Паводле адукацыі і роду дзейнасці між імі ёсць не толькі філолагі, але і журналісты, гісторыкі, медыкі, маркетолагі. Публікацыя ў «М.» сталася для многіх прыемным сведчаннем уключанасці ў беларускую культурную прастору, магчымасцю адчуць сябе аўтарам, які звяртаецца да шырокай аўдыторыі. Побач з традыцыйным пажаданнем паэтычных поспехаў хацелася б пажадаць цікавых доследаў у розных жанрах і стылях не толькі мастацкай літаратуры, вынаходлівай рэпрэзентацыі сваёй творчасці, якая прывабіла б многіх людзей да беларускай культуры і мовы.

З асаблівай удзячнасцю ў гэтым матэрыяле варта згадаць імя рэдактара аддзела паэзіі Ірыны Мяцеліцы (Чарняўскай): з улікам разнастайнасці сучасных эстэтычных крытэрыяў у часопісе амаль няма слабых вершаў, што сведчыць аб прафесіяналізме каманды, адказнай за змест выдання.

Нават скептычных чытачоў павінна ўсцешыць тое, што ў новых пакаленнях з'яўляюцца свае творцы — людзі, якія валодаюць беларускай мовай на дастатковым узроўні, каб брацца за паэзію. І калі ад Кракава да Гомеля, ад Віцебска да Пінска складаюцца новыя беларускія вершы, значыць, мова наша жыве, і сёння ёсць каму падхапіць галасы лепшых айчынных паэтаў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Жыццё насуперак «бы»

Звычайна наследаванне нашаніўцам, у прыватнасці Багдановічу, так і застаецца наследаваннем. Фармальнай данінай памяці, цытаваннем, спробай укласці думку ў форму санета, а калі яна ўкладаецца, то пачуццю застаецца не так шмат месца. Сяргей Мацін, пры сваіх юных гадах, стварыў цуд. Калі яго санет і мае агрэхі, яны з ліхвой акупаюцца шчырасцю, натуральным голасам аўтара.

Санет заўжды стварае рызыку, што пасля карпатлівай працы паэта ад яго самога ў творы застаецца няшмат. Замест жывога твора — тэкст у межах жанравых патрабаванняў. Менавіта таму за адзін няроўны, палкі санет Сяргея Маціна я аддаў бы прывялы вянок санетаў, а тым больш — вянок вянкоў, ад якога патыхае не жыццём, а гербарыем.

Тым больш горка пра гэта казаць, што Сяргея ўжо няма ў жывых.

Сяргей Мацін быў ліцэістам. Сёння Ліцэй БДУ нагадвае першыя еўрапейскія ўніверсітэты з іх вясёлым вальнадумствам. Прынамсі, тыя ліцэісты, якіх ведаю я, — разумныя, кемлівыя, дасціпныя і насмешлівыя, калі справа датычыць чалавечых глупстваў. І разам з тым яны лірыкі, з чуйным адчуваннем свету і нескажонай пакуль душой.

Якраз такім у сваёй пасмяротнай (а як хацелася б апусціць гэты эпітэт) кнізе «Мары Хмар» паўстае Сяргей Мацін. Два гады таму, якраз у снежні, Сяргей трагічна загінуў. Сёлета выйшла яго кніга, за што «дзякуй» выдавецтву «Галіяфы».

Кнігу ўкладала Кася Глухоўская, такая ж юная аўтарка, і такая ж жыццярадасная. Прадмову пісаў сябар Сяргея, таксама ліцэіст Андрэй Строцаў. Так кніга атрымалася абсалютна юнацкай. Кніга-абурэнне светам філістараў, якіх не цікавіць нічога, апроч лічбаў, кніга-спадзеў на тое, што стане моцы самому не ператварыцца ў філістара, кніга-вера ў лепшае.

Калі анатацыя пазначае, што Сяргей Мацін — таленавіты аўтар, гэта ніяк не перабольшанне. У «Марах Хмар» не знойдзецца ніводнага прыкладу гладкапісання ці манернічання. Не знойдзецца і сентыментальнасці, якая выглядае так паэтычна, што і самой паэзіі не застаецца. Гэта просты і поўны цеплыні да ўсяго свету голас. Голас яшчэ не пастаўлены, ён «ламаецца», але — ужо гучыць.

Сяргей Мацін безаглядна выказваў сябе. І гэта таксама адна з прыкмет таленту. Ужо ў першай яго кнізе бачная стваральная сіла. Калі існуе наватвор, ён узнікае натуральна, не выглядае як спроба сарыгінальнічаць. Калі паэт звяртаецца да Багдановіча (ён двойчы цытуе «Паміж пяскоў егіпецкай зямлі…»), зварот не выглядае як зняты ў пашане перад класікам капялюш, — то падхоплены матыў. Ён не імітуецца, не парадзіруецца з постмадэрнісцкай іроніяй, але працягваецца ў сучаснасць. А мог бы і ў будучыню.

Мы бачым, як жывы, пазбаўлены цынізму юнак адкрывае для сябе законы сусвету. Так, яны адкрыццё толькі для яго, — але ўжо ў тым, як гэта перадаецца словам, можна было б убачыць наступныя яркія творы. Такія адкрыцці не гучаць банальна толькі таму, што Сяргей Мацін не нагадвае чытачу прапісныя ісціны, але дзеліцца з ім радасцю адкрыцця. «Мары Хмар» з тых кніг, дзе важна не *што* прамаўляецца, а *як*.

«Будзённы парадак абрыд…» — паэт кожным вершам, нават песімістычным (а іх мала) выказвае прагу жыць. Псеўдаіснаванне для яго роўнае смерці. Для яго «секунда — як скокі гепардаў». Праз верш ці, быць можа, крыху радзей, сустракаюцца словы «час», «імгненне», «хвіліна», «імкненне», «рух». Ёсць і «спакой» — у яго адмаўленні.

Асабістае для паэта першаадкрывальніцтва свету дае пра сябе ведаць у вершах-канстатацыях. Ён быццам бы занатоўваў жыццё. Пра гэта абмовіўся і сам Сяргей; пра жыццё вершам, пра тое, што паэт пачынаў чытаць новыя творы пасярод размовы, на вуліцы, дзе заўгодна, піша і Андрэй Строцаў.

Схільнасць да аналітычнасці, апавядальнасці, узбагачанай нечаканымі вобразамі, робіць Сяргея Маціна падобным да старадаўніх аўтараў. Іншы верш можна было б уключыць у анталогію ананімнай літаратуры якога-небудзь даўняга стагоддзя — ніхто, акром спецыялістаў, і не заўважыў бы махлярства ўкладальнікаў. І падобна




да таго, што Сяргей Мацін любіў Шэкспіра. Справа нават не ў адным эпіграфе са спадчыны драматурга. Ён гэтак жа звадзіць падсумаванне ў апошнія радкі, гэтак жа любіць заключаць думку ў адзін радок, гэтак жа прыкмячае для сябе заканамернасці, якім падпарадкоўваецца чалавек, і аддае іх — дзе паспяхова, дзе яшчэ не вельмі, — свайму «пяру».

Вядома ж, Сяргей Мацін не стаў бы ні Шэкспірам, ні Багдановічам, ні яшчэ некім іншым. Ён мог бы быць толькі сабой, сведчаннем чаму — кожны верш «Мараў Хмар».

**Андрэй ЖБАН**

# Ён вельмі хацеў у Парыж

**Экстравагантны авангардыст і яго дынастыя прадстаўлены ў выставачным праекце «Геніны гены». Акрамя карцін легендарнага Генадзя Хацкевіча на выстаўцы ў Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» дэманструюцца творы яго дзяцей Аляксея і Мадлен, а таксама маленькіх унукаў Ганны і Пятра.**

Кожны з прысутных мог скласці сваю гісторыю знаёмства з мастаком. Гісторыя ад Ларысы Фінкельштэйн:

— Гена, наш блізкі сябар, быў авангардны і крэатыўны яшчэ тады, калі гэтых слоў услых не гаварылі. У мастацтва ён прыйшоў абсалютна дзіўным: кучаравым, доўгавалосым, вельмі мэтанакіраваным і яркім. Ён заўсёды быў свабодным па духу, думаў неардынарна, гаварыў тое, што думаў, і рабіў тое, што гаварыў. Першыя работы Гены былі брутальныя, жорсткія, пасля сталі больш мяккія, пранікнёныя. Яго жыццёвы і творчы шлях быў ахутаны вялікай агульнай гармоніяй, таму што ў Гены, як і ў старажытных мастакоў, жыццё і мастацтва былі сінкрэтычныя. Ён ніколі не звяртаўся да гадоў альбо дат, жыў асобнымі эпохамі, цывілізацыямі. Ён быў вынаходнік.



Пётр Хацкевіч, Аляксей Хацкевіч «Дзяцінства». 2013 г.

Гісторыя ад сына — Аляксея Хацкевіча:

— Я задумаў зрабіць гэту выстаўку ў асноўным як праект работ майго бацькі, менавіта таму, што ў яго сёння няма з намі, а творы жывуць. Бацька быў чалавек эпатажны, чалавек-свята, заўсёды нечым цікавіўся, яго перапаўнялі ідэі. Здаралася, што калісьці ён казаў пра сябе, што з'яўляецца рэінкарнацыяй Леанарда да Вінчы. Яго творчыя ідэі заўсёды былі звязаны з тэхнічнымі ведамі, яму хацелася зрабіць свет лепшым, цікавым. Ён сцвярджаў, што многія яго канцэпцыі зашыфраваны ў мастацкіх работах. Таму кожны жадаючы можа паспрабаваць знайсці ў іх навуковае адкрыццё.



Генадзь Хацкевіч. Работа з цыкла «Сума тэхналогій». 1996 — 1999 г.

Гісторыя ад Алены Донцыс, якая была побач з аўтарам апошнія гады:

— Гена быў чалавекам жывой, несуцішнай энергіі. Яго галава поўнілася рознай інфармацыяй. Калі ён не пісаў карціны, то ствараў інжынерныя праекты: розныя плывучыя па вадзе канструкцыі, ровары. Пасля запрашаў маленькіх дзетак альбо сваіх сяброў і ў тым ліку мяне паспрабаваць новае стварэнне. Аднойчы на яго дзень нараджэння мы сабраліся на рацэ Свіслач: да гэтага ён сам збудаваў лодку. Паступова ён сеў у яе і павольна паплыў, пасля чаго канструкцыя пачала апускацца на дно, і Гена апусціўся разам з ёй, а пасля выбраўся на бераг. Гэта гісторыя запомнілася нашым сябрам назаўсёды. Гена ніколі не быў сумным, заўсёды знаходзіў занятак сабе і навакольным.

Гісторыя ад калекцыянера Андрэя Плясанава:

— Ён быў двоечнікам, да чацвёртага курса дрэнна вучыўся. І гэта не сведчыць аб тым, што ён быў дурным чалавекам, наадварот, ён ведаў настолькі шмат, што некаторых людзей сваімі магчымасцямі мог напалохаць. Ён не бачыў сэнсу вучыцца таму, што ўжо ведаў лепш за тых, хто яго вучыў. Напэўна, ужо ні для каго не сакрэт, што Гена — першы ў беларускай гісторыі мастак, які ў 1987 годзе спрабаваў скрасці самалёт. Ён ніколі не быў у Францыі і вельмі хацеў убачыць Парыж, убачыць радзіму такога блізкага яму авангарду. Здзейсніць план па згоне самалёта яму не атрымалася, а вось ажыццявіць мару — пажыць у Францыі — ён змог. Пра Гену можна гаварыць бясконца, бо столькі змяшчаць у сабе жыцця, мар і працаздольнасці мог толькі сапраўдны унікум.

Гісторыя ад сябра юнацтва Леаніда Хобатава:

— З Генай мы разам вучыліся. Менавіта на маіх вачах нараджаўся таленавіты, моцны мастак. Ён быў унікальнай прыродай, супраць якой нельга было супрацьпаставіць ніякую сістэму. Ён адмаўляўся ад акадэмізму і класікі, бо заўсёды сам ведаў свой стыль і магчымасці. Гена не шукаў свой творчы шлях доўга, прырода сама падказала яму, што трэба рабіць — такое здараецца толькі з геніяльнымі людзьмі. Сёння Гену смела можна ўпісваць у гісторыю культуры Беларусі, яго творчасць — высокі ўзровень успрымання жыцця, які сёння дазваляе сябе паважаць.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Як птушкі

## Паміж небам і зямлёй: паветраны горад як выклік людзей багам

Людзі, можа, і не лятаюць. Але яны могуць кіраваць птушкамі — і што яшчэ трэба? Усё можа скласціся даволі пасыхова — паводле спектакля Дзяржаўнага тэатра лялек і рэжысёра Аляксея Ляляўскага. У прэм'ерным спектаклі «Птушкі» паказана, што пярнатыя пры правільным кіраванні могуць пабудаваць цэлы горад. Прычым, у вельмі зручным месцы. І вось ужо воля самога бога Зеўса не даходзіць да тых, хто жыве на зямлі: пасрэднікі перахопліваюць ініцыятыву і няйрэнна пры гэтым пачуваюцца. Багам нічога не застаецца, як ісці на дыялог і саступкі. Прынамсі, на тэатральнай сцэне.

«Птушкі» — бадай самы не просты твор старажытнагрэчаскага камедыёграфа Арыстафана, ён стварыўся ўжо з пэўнай думкай аб сацыяльным уладкаванні грамадства. Вобраз антычнай Грэцыі, вялікай культуры і спелай афінскай дэмакратыі раствораны ў кожнай фразе аўтара. Дзівак быў Арыстафан: яго краіна такая вялікая, а ён знаходзіць падставы для кпінаў. Можа, таму, што быў сапраўды патрыёт і імкнуўся ўдасканальваць свет, у якім жыў. Вось і героі гэтай п'есы — два афінянiны, якія сумняваюцца ў велічы роднага горада (на гэта ёсць шэраг прычын) і будуюць свой, дзе ім будзе зручна і ўтульна. Дом сярод птушак — гэта рамантычна…




Фота Таццяны Матусевіч.

Два героі так гавораць, так развеважаюць, нібыта ў іх сапраўды выраслі крылы — амбітны праект задумалі. Гэта паводле Арыстафана. Таму антычнасць — вытанчана-белая, з вераў у чалавека — выступае на сцэне вонкавым вобразам (сцэнаграфія Людмілы Скітовіч). Афіны — горад багоў, дзе ў велічных храмах іх усслаўляюць — і як жа не захапіцца цудоўнымі белымі калонамі, якія з'яўляюцца на сцэне, пастаментамі і катэдрамі, дзе прамоўцы абяцаюць цудоўнае будучае жыццё, лепш чым у людзей. Яго забяспечыць дэмакратыя новага ўзору — тучэкукуйская, якая стане асновай у новым горадзе з назвай Нефелакакігія. Пра гэта сведчыць надпіс-графіці аднаго з «бацькоў» горада. І які ж гэты Арыстафан?

Гэта ўсё ж спектакль Ляляўскага, яго прачытанне п'есы. Чытаецца яна як камедыя ці не — залежыць ад інтанацыі. Месцамі яна сапраўды іранічная. Таму пёры птушак расквечаны ў розныя адценні, што абыгрывае сучасныя «афарбоўкі» людзей. Таму высокі слог Арыстафана спрошчаны да разумення сучаснага чалавека. Таму што тэатральная пастаноўка, прэм'еру якой прапанавалі напрыканцы года, скіраваная на нас. На тых, хто просты і без комплексаў, на прасунутых-сучасных, маладых і тых, хто мае вопыт жыцця. На тых, хто жыве ў амаль дасканалай дзяржаве і можа зразумець клопат тых, чыё жыццё патрабуе ўдасканалення (а такіх жа вакол нас шмат). Вось тут чалавек мінулага можа паразумецца з нашым сучаснікам.

Аказваецца, людзі што 1500 гадоў таму, што зараз — аднолькава разумеюць «добра» і «дрэнна», аднолькава мараць пра лепшую долю, іранізуюць, жартуюць. Не, ну зразумела, калі з абставін і сітуацый. Але што за жарты над класікам антычнага тэатра? Напрыклад, у спектаклі, паводле заснавальніка камедыі, гучаць рок-спевы пад электрагітару (музыку спецыяльна стварыў лідар гурта «Нагуаль» Леанід Паўлёнак). Спеўныя нумары — гэта голас грамадства, таго самага, якім кіруюць у новым горадзе. Спачатку гэта проста спевы і музычны нумар (прышпільна!). Далей музыка «ўключае» напружанне. Зразумела, што камедыя і трагедыя ў гэтым тэатральным творы ідуць поруч. Смешна, калі птушкі не толькі будуюць горад, але і ствараюць яго эканоміку — відаць, добра ідуць справы, калі сховішча застаўлена скрынямі з яйкамі. Не смешна, калі афіняне літаральна на месцы смажаць з іх яешню: птушанят не будзе. А ў горада — будучыні. У людзей, якія кіруюць птушкамі, сваё ўяўленне пра тое, што можа быць шчасцем для пярнатых — горад, як горад, не важна, што абнесены дротам, нібыта клетка куратніка. І вось ужо адна з птушак становіцца тушкай на вячэру. Нават сам Зеўс вымушаны лічыцца з горадам, які знаходзіцца паміж небам і зямлёй. Грамавержац вымушаны аддаць сваю дачку за чалавека, якому ўжо мала ўлады над адным горадам.

Антычнасць апарочана. Не па волі рэжысёра Ляляўскага, хоць так можа падавацца. Светлыя мары і вера ў чалавека ў антычнай культуры не спраўдзіліся, над чым сам чалавек моцна пастараўся цягам сваёй гісторыі. І гэта прадчуваў яшчэ Арыстафан. Беларускі рэжысёр яго толькі агучыў і перавёў на сучасную сцэнічную мову. У чым яны супадаюць, дык у разуменні тэатра: гэта мастацтва, якое размаўляе з людзьмі, дае магчымасць угледзецца ў сябе, зрабіць высновы пра свет вакол нас.

Аляксей Ляляўскі — той рэжысёр, які нічога не робіць проста так. Яго прэм'еры — нібыта мізансцэны ў больш маштабным спектаклі. Дакладна, ён ставіць спектаклі для дарослых сур'ёзных людзей. У гэтым спектаклі лялькі ўмоўныя. Героі, акцёры, музыкі — гэта людзі-артысты, якія іграюць на сцэне. Лялькі ім толькі дапамагаюць у некаторых момантах, і яны тут не дзеля забавы людзей, якія жывуць на зямлі. Лялькамі на гэтым спектаклі пачуваюцца тыя, хто лунае ў аблоках.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Кніжныя анёлы існуюць!

Адметнай падзеяй года можна назваць і пачатак акцыі «Сямейнае чытанне», што праводзіцца сумесна з Беларускім саюзам жанчын і будзе доўжыцца да мая 2016 года. Гэты праект закліканы яшчэ раз нагадаць, як важна ў коле сям'і, сяброў, блізкіх знаходзіць час для кнігі. Літаратурныя творы, прачытаныя разам, могуць стаць выдатнай тэмай для агульнай цёплай гутаркі. Міністр працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, старшыня Беларускага саюза жанчын Марыяна Шчоткіна ў сваім выступленні падчас балю распавяла, што бадай кожны з нас у дзяцінстве прасіў маму ці тату пачытаць кнігу. Гэтыя моманты сумеснага баўлення часу з выдатнымі літаратурнымі гісторыямі поўніліся цеплынёй і шчасцем. Марыяна Акіндзінаўна заўважыла:

— Калі вы ўважліва прыглядзіцеся да кніг, прадстаўленых на аўкцыёне, то заўважыце, што за кожнай з іх стаіць маленькі анёл. На жаль, ёсць дзеці, якім мама ніколі не чытала кнігі, якія былі пазбаўленыя гэтага шчасця матулінай ласкі, дабрыні і цеплыні казак, апавяданняў, гісторый. Сёння кожны з нас мае магчымасць прынесці цяпло, паказаць сваё неараўнадушша такім дзеткам.



Фота Кастуся Дробава.

Удзельнік дабрачыннага аўкцыёну.

> *Самы дарагі лот аўкцыёну, які пайшоў з малатка за 9,5 мільёна рублёў, — кніга «Уладзімір Мулявін. "Сэрцам і думамі…"», падрыхтаваная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» пад заслону года. Пад вокладкай фаліянта сваімі ўспамінамі пра выдатнага музыканта, стваральніка і кіраўніка легендарнага гурта «Песняры», народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна дзеляцца яго сябры і калегі.*

## РАЗ, ДВА, ТРЫ… ПРАДАДЗЕНА!

15 унікальных кніжных праектаў, аб'яднаныя ў 7 тэматычных блокаў, сталі лотамі дабрачыннага аўкцыёну. Хоць усе сродкі, атрыманыя ад продажу каштоўных выданняў, будуць скіраваныя на дабрачыннасць, сама дзея праходзіла па строгіх правілах аўкцыёнаў. А правёў яго вядомы аўкцыяніст Аляксандр Бугаеў. Ён распавёў, што кніжны аўкцыён — незвычайная падзея, яго калегі з суседніх краін з зайздрасцю захапляюцца задумкай. Тут можна назіраць і неверагодную розніцу паміж стартавым коштам лотаў і той цаной, па якой ён у выніку прадаецца. Сёлета адна з кніг на таргах павялічыла свой кошт амаль у 40 разоў!

Самым вялікім сёлета быў блок лотаў, прысвечаных юбілеям выдатных пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў. Так, на аўкцыёне прадстаўленыя кнігі **Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя Роспачы» і «Дзікае паляванне караля Стаха»**. Гэта выданні, што пабачылі свет у 2003 і 2010 гадах. Цяпер «Мастацкай літаратурай» працягваецца выпуск Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах, першыя кнігі серыі ўжо цалкам прададзеныя, таму поўны камплект (што было б лагічна) на аўкцыёне было немагчыма прадставіць. Словы класіка прагучалі падчас імпрэзы. Так, урывак з апавядання Караткевіча «Калядная рапсодыя» прачытаў першы намеснік міністра інфармацыі краіны Ігар Луцкі.

Каштоўным лотам сталі і двухтомныя **«Мемуары Міхала Клеафаса Агінскага»**, 250-годдзе гэтага выдатнага кампазітара і дыпламата сёлета шырока адзначалася ў розных краінах свету. Праект выдавецтва «Чатыры чвэрці» ўключае яшчэ два тамы ўспамінаў і даследаванняў нашчадкаў Агінскага Іво і Анджэя Залускіх (яны склалі асобны лот). Памяці выдатнага мастака, які ў сваіх работах увасобіў боскую прыгажосць Мадоннаў, прысвечана выданне **«Аляксей Кузьміч. Творца ўзвышаных Мадоннаў»** (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Сёлета творцу споўнілася б 70.

Адзначылі на аўкцыёне і наступны вялікі юбілей — 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Былі прадстаўленыя: рарытэтная энцыклапедыя **«Францыск Скарына і яго час»**, эксклюзіўны праект **«Скарынаўскі каляндар»**, а таксама кніга **«Францыск Скарына на мовах народаў свету»**, падрыхтаваная летась Выдавецкім домам «Звязда».

## УВАГА! СІГНАЛЬНЫ ЭКЗЭМПЛЯР

Час паскарае сваю хаду. У век развіцця лічбавых тэхналогій мы часам імкнёмся не проста сачыць за ўсімі актуальнымі навінамі сённяшняга дня, але і пры магчымасці зазірнуць у будучыню. Падарожжа прынамсі на некалькі тыдняў наперад — яшчэ адзін цуд калляднага балю. Так, калі на ранейшых святах самымі эксклюзіўнымі і каштоўнымі былі рарытэты з прыватных калекцый, выданні, якіх ужо даўно няма ў продажы, то сёлета рарытэты саступілі па папулярнасці кнігам, што яшчэ рыхтуюцца да шырокага выпуску і выдадзеныя толькі ў адзінкавых копіях.

Падчас аўкцыёну сваіх першых чытачоў і ўладальнікаў знайшлі кнігі, якія, безумоўна, стануць хітамі наступнага года. Гэта выданне **«Гонар Беларусі. Маладыя, таленавітыя, адораныя»**, падрыхтаванае выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» як своеасаблівы вынік Года моладзі. Кніга распавядае пра лаўрэатаў і стыпендыятаў спецыяльных фондаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама адораных навучэнцаў і студэнтаў.

Першы асобнік выдання **«Слуцкія паясы. Мастацтва, асобы, эпоха»** (выдавецтва «Беларусь») таксама знайшоў свайго чытача. Кніга пабачыць свет у межах Дзяржаўнай праграмы адраджэння традыцый і тэхналогій вытворчасці слуцкіх паясоў. Яна прапануе неверагоднае падарожжа па яркіх старонках гісторыі гэтага элемента касцюма нашых продкаў.

Дарэчы, самы дарагі лот аўкцыёну, які пайшоў з малатка за 9,5 мільёна рублёў, — таксама першы экзэмпляр. Гэта кніга **«Уладзімір Мулявін. "Сэрцам і думамі…"»**, падрыхтаваная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» пад заслону года. Пад вокладкай фаліянта сваімі ўспамінамі пра выдатнага музыканта, стваральніка і кіраўніка легендарнага гурта «Песняры», народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна дзеляцца яго сябры і калегі. Думаецца, 2016 год, які ў нашай краіне аб'яўлены Годам культуры, пройдзе і пад зоркай Уладзіміра Мулявіна, якому 12 студзеня споўнілася б 75… Гэтым можна патлумачыць вялікую колькасць сапраўды зорных гасцей на балі. У зале былі сын і дачка Уладзіміра Георгіевіча, яго сябры і паплечнікі. Кампазітар Алег Молчан распавёў, як фактычна з першай спробы была створаная «Малітва» — песня, што аб'яднала два вершы Янкі Купалы.

— Калі Мулявін прыйшоў да мяне з такім доўгім вершам і прапанаваў напісаць песню, я сказаў, што людзі да канца могуць і не даслухаць, — падзяліўся ўспамінамі кампазітар. — Але ён мне адразу запярэчыў: калі песня будзе добрая, то абавязкова даслухаюць.

Так сапраўды сталася, і купалаўска-мулявінская «Малітва» сёння з'яўляецца адной з самых знакавых песень нашай краіны.

Адметна, што ў 2004 годзе ў «Мастацкай літаратуры» ўжо выходзіла кніга пра Уладзіміра Мулявіна ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі». Новае выданне — яшчэ адзін крок да ўшанавання памяці пра выдатнага музыканта. У кнігу ўвайшло мноства фотаздымкаў, многія з якіх публікуюцца ўпершыню.

## НАПІСАНАЕ ЗАСТАНЕЦЦА?

Унікальнасць і знакавасць кніжных праектаў, прадстаўленых на аўкцыёне, пацвярджае: яны знойдуць сваё месца на паліцах новых уладальнікаў, будуць чытацца, перагортвацца з памяццю пра добрую справу ахвяравання сродкаў падчас балю. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што з гадамі гэтыя кнігі здабудуць яшчэ большую каштоўнасць. Безумоўна, рарытэтам стане зборнік **«Мой дзень пачынаецца… Проза і паэзія маладых»**, выдадзены сёлета **«Мастацкай літаратурай»**. Рэдкім назавуць альбом «Запавет нашчадкам», прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі (падрыхтаваны выдавецтвам «Бяловагруп» і Паліграфкамбінатам імя Якуба Коласа), знакавай стане першая кніга серыі «Культурная спадчына Беларусі» — альбом **«Аляксандр Кішчанка. Летапісец XX стагоддзя»** (выдавецтва «Чатыры чвэрці»), падтрыманая Банкам развіцця Рэспублікі Беларусь. А двухтомны праект **Андрэя Лукашэвіча і Пятра Брыгадзіна**, прысвечаны асобам губернатараў і кіраўнікоў Мінска **«Мінскія губернатары. Гісторыя ўлады» і «"Градаправіцелі" Мінска. Гісторыя ўлады (люты 1917 — снежань 2013)»**, ператворыцца ў летапіс нашай сталіцы.

> *Калі на ранейшых святах самымі эксклюзіўнымі і каштоўнымі былі рарытэты з прыватных калекцый, выданні, якіх ужо даўно няма ў продажы, то сёлета рарытэты саступілі па папулярнасці кнігам, што яшчэ рыхтуюцца да шырокага выпуску і выдадзеныя толькі ў адзінкавых копіях.*

Такім чынам, Калядны кніжны баль яшчэ раз даказаў: сёлета выдаўцамі рэалізавана сапраўды шмат знакавых праектаў, але і наступны год абяцае быць не менш цікавым і пасяховым. З кнігай, здольнай тварыць дабро, несці розум і асвету, сапраўды ўсё магчыма.

Важна, што падчас аўкцыёну сёлета было сабрана 68 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы (ці ўсё ж такі кніжныя анёлы?) дапамогуць здзейсніць запаветныя жаданні выхаванцаў Журавіцкага дома-інтэрната. Дзякуючы добрай кнізе сапраўды адбываюцца цуды!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Эцюды з фарбаў і слоў

**Першы ў дзіцячай беларускай літаратуры вянок вянкоў санетаў, аповед пра тое, што для кожнай мары, калі яна сапраўдная, знойдзецца свой час, развагі пра сутнасць мастацтва і псіхалогію светаўспрымання — усё гэта змясцілася пад вокладкай кнігі «Мару стаць я мастаком» Соф'і Шах. Незвычайны па канструкцыі і вельмі шчыры па змесце твор пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда».**

У цэнтры сюжэта — станаўленне маленькага творцы, першыя крокі раскрыцця яго таленту, радасць натхнення і гарката няўдач, апантанасць і разгубленасць... Кожны з нас марыў пра будучую прафесію, калі быў маленькім, бачыўшы сябе лекарам у вялікіх акулярах, строгім, але справядлівым настаўнікам, крэатыўным тэлеаператарам, таленавітым спеваком ці экспрэсіўным артыстам, у грымёрцы якога — заўсёды шмат кветак... Але толькі адзінкі здолелі пранесці гэтую мару праз усё жыццё. Так і галоўны герой, Тарас Туманаў, знайшоў сябе... у чацвёртым класе. Раптоўна, на ўроку малявання. Ці здолее ён дабіцца таго, чаго жадаў, потым, у дарослым жыцці? У кнізе пра гэта не сказана, але ўпэўненасць чамусьці — на сто працэнтаў.



Тарас, нягледзячы на свой зусім яшчэ невялікі ўзрост, дэманструе амаль усе якасці, неабходныя для дасягнення мары — упартасць, працаздольнасць, сілу волі, фантазію і ўпэўненасць. Хлопчык у адзін момант вырашае змяніць свой светапогляд, захапіўшыся колерамі, адценнямі, фарбамі... і прыгажосцю навакольнага свету. «На паперы мне — прастор. / Я ж магу любую мару — / хоць вяршыні нават гор, / хоць над імі нават хмару, / хоць даліну, хоць імшару, / хоць вясёлкіну дугу, / акіян ці хоць Сахару — / маляваць усё магу». Колькі спісаў і пераламаў ён алоўкаў, накрэмзаў недарэчных ліній, паперы сапсаваў, які не здаваўся! Вельмі ўважліва сядзеў цэлую гадзіну над звычайнай рамай з чорных ліній. А потым яшчэ дзве разважаў, як лепш зашкліць на паперы вокны. Шмат у кнізе цікавых думак пра адценні і колеры — вельмі карысных, між іншым, для пачынаючых мастакоў.

Кніга Соф'і Шах адметная яшчэ і тым, што прывівае любоў да прыроды, увогуле ўсяго асяроддзя, развівае (ці абуджае) уменне захапляцца кожнай хвілінай, скрозь заслону штодзённасці радавацца такім дробязям як, напрыклад, адлюстраванне зорак у лужыне ці танец сняжынак пад вулічным ліхтаром, шаптанне васількоў у жыце ці рух блакітнай ваты з аблокаў...

«У найкожным дні, урэшце, / ёсць уласнае святло — / на любым яно прадмеце / фарбай нейкай прарасло», — кажа маленькі Тарас. Дарэчы, ён выглядае занадта мудрым для свайго ўзросту, што вельмі прыцягвае. Ён разумее, што аднаго натхнення для таго, каб стаць мастаком (авалодаць любой іншай прафесіяй), мала — трэба яшчэ і шмат цярпення. Хлопчык увесь час прыслухоўваецца да свайго сэрца і, у рэшце рэшт, адважваецца на стварэнне свайго першага твора — малюнка пейзажа з выявамі роднай рэчкі, шэранькімі плямамі дамоў, цёмнай стужкай асфальту, купкамі ліпеньскага сена, бярозкамі ў карагодзе...

Соф'я Шах стварае свае санеты настолькі маляўнічай мовай, што, здаецца, кожны слупок — асобны эцюд. Глыбокі роздум, самота ці ўзнёсласць, усхваляванне альбо спакой — увесь спектр эмоцый маленькага чалавека, які толькі пачаў, па сутнасці, пазнаваць свет, шукае ў ім сябе, перадае пісьменніца.

Дасканаласць, строгасць і знешняя сціпласць формы, якой вымагае жанр, не перашкаджае адчуваць у кожным радку эмацыянальнасць светаўспрымання героя — увесь спектр яго адчуванняў. Хлопчык сапраўды здольны да мастацтва, бо ён бачыць намнога больш, чым прызвычаіліся многія... Варта ў яго павучыцца!

Тое, што даецца з палёгкаю, доўга не жыве — адна з бясцэнных думак, схаваных у кнізе, якая, сапраўды, дае надзею на лепшае, цярпенне і веру ў сябе. І яшчэ: санеты не выглядалі б так ярка, калі б не ілюстрацыі да выдання, створаныя Дар'яй Чупрыс. Мастачка настолькі ўважліва прачула кожнае слова, што перадала настрой хлопчыка літаральна на адным дыханні, выкарыстоўваючы сімвалы — маланку як разгубленасць, сонечныя плямы як задор, зялёныя мігценні-развsituation...

Каб не заблытацца ў жанры і зразумець, чаму некаторыя радкі ў вершах паўтараюцца, трэба ведаць, што вянок складаецца з пятнаццаці санетаў, а вянок вянкоў — з двухсот дваццаці пяці. Нельга забывацца і пра асаблівую сістэму рыфмавання. Санет — гэта вельмі цяжкая паэтычная форма, якая патрабуе ад паэта выключнага майстэрства, а ад чытача — уважлівасці.



# Навагодняе натхненне

**Цуды здараюцца, калі ў цябе добрае сэрца — і ты шчыра ў нешта верыш. Варта заплюшчыць вочы, загадаць штосьці вельмі важнае, захацець моцна-моцна — і яно спраўджваецца. Хутка ці праз пэўны час. Вядома, самому таксама трэба паварушыцца. Менавіта ўчынкамі вызначаецца ход жыцця. Кніга Тамары Красновай-Гусачэнка «Навагоднія прыгоды Марусі», якая выйшла не так даўно ў Выдавецкім доме «Звязда», — вельмі дарэчы напярэдадні чаканых святаў. Менавіта ў гэты перыяд і дарослым, і дзецям хочацца верыць у абсалютную дабрыню і спраўджванне самых неверагодных мар.**



Хутка наступіць самая чароўная ў годзе раніца — перадназагодняя. Чаканне чараўніцтва ўзмацніцца настолькі, што ні пра што іншае немагчыма будзе думаць: «Толькі б паспець загадаць жаданне!». Але не ўсё ідзе па вызначанай схеме — якой бы ідэальнай яна ні была. Аб чым ідзе гаворка? Пакуль мама рыхтуе аліўе, а тата шукае ёлку, можна нікому не перашкаджаць, не насіцца па хаце верталётам, а пачытаць казачную кніжку і зарадзіцца той самай фантазіяй, якая і прыцягвае ўсё неверагоднае.

Дзеянне аповеду Тамары Красновай-Гусачэнка пачынаецца спакойна: звычайная сям'я рыхтуецца да сустрэчы Новага года ў маленькім доміку, акружаным гарамі і густым лесам. Не, гэта не фільм жахаў — хоць без момантаў, ад якіх злёгку закіпае кроў, не абышлося. Памятаеце Алісу Льюіса Кэрала? Атмасфера твора месцамі прыблізна такая ж. Хоць і нашмат прасцей. Пачынаюцца прыгоды з урачыстага ўпрыгожвання хатняй ёлкі. Як высвятляецца, не зусім простыя на ёй аказваюцца гірлянды, сняжынкі і цукеркі... Галоўная гераіня, дзяўчынка Маша, так і не паспявае пакаштаваць святочных страў і распакаваць свой падарунак — чароўны снежны віхор выносіць яе ў ноч далёка за межы роднага дому, пад звон срэбных званочкаў...

А далей — сустрэча з сабакам у фетравым капелюшы і гальштуку, які ўмее размаўляць. Прататыпам яго, відаць, служыць Чэшырскі кот. Рамонкавае поле пасярод зімы. Бэзавы юнак са шклянкай такога ж бэзавага малака ў руках. Каралеўства Горных галасоў, дзе жывуць адны спевакі, — да немагчымасці ветлівыя, пачцівыя, мілыя... Праз пару старонак, аднак, пачынаеш падазраваць, што з месцам, куды занесла гераіню, нешта не так. Ды і з яго жыхарамі. Вельмі ж яны лялечныя, стэрыльныя, ідэальныя...

Адважная Маруся вельмі хутка зрывае са свету, у які яе завяла перадназагодняя казка, усе маскі. За ветлівай прамовай, салодкімі галасамі і цукровымі кампліментамі кемлівая дзяўчынка разгадвае абуральныя ліслівасць, подласць і жорсткасць. «Нават пікнуць не паспееш, як раптам — р-р-раз — і няма галавы», — «абнадзейвае» Марусю ў першы дзень яе з'яўлення на незнаёмай зямлі адзін з персанажаў. Таямнічы змрочны палац у асяроддзі густых зараснікаў дзікага вінаграду, блакітных елак і акуратна стрыжаных газонаў аказваецца страшнай крэпасцю для сваіх насельнікаў... Замест ключоў і засовы тут — лянота. Аўтар тонка намякае, што менавіта бяссілле, нежаданне нічога рабіць, апатыя і абыякавасць скоўваюць любыя змены да лепшага. У гэтым асноўная мудрасць кнігі.

Незвычайных герояў, акрамя сабакі, які размаўляе, у казцы дастаткова. Вось, напрыклад, галоўны злыдзень: чалавечак, падобны да кавуна, па імені Гуш-Чанка, спявак няўдачнік, зайздросны і злы, які ўсё жыццё толькі і робіць, што падглядае і падслухоўвае.

Марусю, дарэчы, нічым не спалохаеш. Яна не з нясмелага дзясятка — маўчаць, сутыкаючыся з несправядлівасцю і грубіянствам, не будзе. Адразу кажа праўду ў вочы, чым заслугоўвае давер самога караля дзіўнай зямлі. Неверагодна тое, што ў дзяўчынкі амаль адразу з'яўляецца шанец збегчы і завяршыць гэтую гісторыю, бо ў палацы няма варты і зачыненых дзвярэй, вялізных ахоўных равоў з вадой, дзе плаваюць алігатары. Але яна застаецца. Дадому не хацелася? Чаму ж, наадварот. Маруся вельмі засумавала па родных і хацела хутчэй вярнуцца... Але перамог альтруізм — жаданне дапамагчы тым, хто трапіў у палон сваіх недахопаў. «Немагчыма жыць бесклапотна, калі ведаеш, што іншым людзям дрэнна», — дзяўчынка кіруецца мараллю, даступнай не кожнаму даросламу, што не можа не выклікаць захаплення. Натхняйцеся на добрыя ўчынкі!

Марыя ВОЙЦІК

*На паліцы*

# Казкі Белавежы

**Што можа прынесці найбольшую асалоду чытачу? Адкрыццё новага аўтара, знаёмства з творамі, якія захапляюць і радуюць. Так было ў мяне з творчасцю Анатоля Брытуна — члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, які выдаў дзве кнігі — раман «Пах мускусу» (2012), аповесць «Сяліба» (2015), друкаваўся з апавяданнямі ў часопісах. У 2014 годзе аўтар атрымаў літаратурную прэмію імя У. Калесніка за свой першы раман «Пах мускусу».**

Ужо ў дзяцінстве Анатоль Брытун цікавіўся гісторыяй свайго роду. Так, ён даведаўся, што яго продкі жылі ў цэнтры Белавежскай пушчы. Падчас Першай сусветнай вайны іх выселілі. А яго дзед і прадзед, абодва леснікі, стралялі ў кайзераўцаў, якія пілавалі дубы і забівалі зуброў.

Анатоль Брытун кажа: «Мяне заўсёды здзіўляла… Ёсць Аляска, і Джэк Лондан напісаў дзясяткі кніг пра яе. Ёсць прэрыі, і Фенімор Купер напісаў шмат прыгодніцкіх кніг пра іх. Ёсць фільмы і кнігі пра Шэрвудскі лес, дзе жыў Робін Гуд. А ў нас самы лепшы і прыгожы лес на ўсю Еўропу, але няма ніводнай прыгодніцкай кнігі. І я пачаў фантазіраваць...» Так з'явіўся раман «Пах мускусу».

І сапраўды, мастацкіх тэкстаў пра Белавежскую пушчу чамусьці не пішуць. Я пазнаёмілася з творамі Фёдара Саевіча: «Белавежская пушча: мой лёс, мая любоў» (2013), «Роздумы пра Белавежскую пушчу» (2011), «Белавежскія былiны» (2009), «У Белавежскіх лясах: нататкі ляснічага» (2007). Аўтар больш як паўстагоддзя працаваў лесаводам, таму і выступіў біёграфам Белавежы. Ён распавядае пра легенды пушчы, пра гістарычныя падзеі ў гэтым кутку Беларусі. Аднак захапіць прыгодамі ў Белавежскай пушчы так, як Анатоль Брытун, не змог.

Першы раман гэтага аўтара распавядае пра нялёгкую працу стражнікаў Белавежскай пушчы. У прыватнасці, знаёміць чытача з яцвяжскім паданнем пра вечнага стражніка, які ахоўвае некранутыя лясы Белавежы. Распавядае пра магілу непераможнага яцвяжскага князя Ердзівіла, якая была прыхавана святым валуном з адбіткам ступні Маці Божай. Адбітак збіраў ваду, што лячыла ад любых хвароб. А стражнікі Белавежскай пушчы захоўвалі святыню, святы валун і дуб на магіле князя. Усё гэта не павінны знайсці ворагі, хціўыя людзі, бо наступствы могуць быць




цяжкія — на доўгія гады на зямлю прыйдзе вялікае няшчасце.

Аўтар вяртае нас у сярэдзіну XIX стагоддзя. Ён распавядае пра тое, што чуў ад маці. Відаць, пісьменнік знаёміўся і з дакументамі, якія паведамлялі пра лёс пушчы. Гэты захапляльны прыгодніцкі раман чымсьці нагадвае творы Фенімора Купера, якімі з дзяцінства цікавіўся аўтар.

«Пах мускусу» чытаецца лёгка, мова зразумелая і дарослым, і дзецям, якія цікавяцца гісторыяй сваёй краіны. Звяртае ўвагу назва твора — нешта ўсходняе, нязвыклае. На самай справе незвычайны пах мускусу сыходзіў ад скуры зуброў. Таму ўвесь лес быў насычаны гэтым пахам. Скура зубра вельмі высока цанілася. Яе выкарыстоўвалі нават каралевы, якія нараджалі дзяцей. Парадзісе клалі скуру зубра на жывот, лічылася, што гэта спрыяе аблягчэнню родаў.

У аўтара вельмі цікавыя прыродныя замалёўкі — нельга прапусціць ніводнай старонкі! Звяртае ўвагу на сябе і яшчэ адна дэталь: часта ў мастацкіх творах тлумачэнні незразумелых слоў выносяцца ў дадаткі ў канцы кнігі. І гэта нязручна. Аўтар з поспехам прыводзіць тлумачэнне новых слоў адразу ж на старонцы.

Другі твор, які пабачыў свет у 2015 годзе, — аповесць «Сяліба». Тут можна прасачыць працяг гістарычных падзей у рамане. Там расповед заканчваецца з прыходам кайзераўцаў у Белавежскую пушчу. Апошні стражнік гіне, ратуючы святы валун і магілу яцвяжскага князя Ердзівіла. У аповесці «Сяліба» аўтар таксама ўводзіць вобраз Рыгора — былога стражніка Белавежскай пушчы, які быў сватам галоўнага героя, Янкі. Яму цяжка давалася сялянская праца. Нават маючы грошы, што атрымаў ад сваёй службы ў Белавежы, ён не мог дапамагчы сыну стаць на ногі, калі той ажаніўся з дачкой Янкі.

Аповесць «Сяліба» адлюстроўвае жыццё селяніна-беларуса на працягу амаль цэлага стагоддзя — з пачатку XX ст. да 1980-х гадоў. Асновай для твора стала кніга «Бежанства 1915 года» (2000) — праўдзівыя гісторыі людзей, якія пакінулі свае вёскі і падаліся ў невядомы свет, ратуючыся ад вайны, але потым вярнуліся на сваю зямлю.

У пачатку XX ст. многія беларусы выязджалі на заробкі. Так і Янка едзе ў Амерыку, каб зарабіць грошай на сваю зямлю. Аўтар распавядае пра цяжкую працу, нялёгкае жыццё беларусаў за мяжой. Аднак Янка вяртаецца з грашыма, з упэўненасцю, што цяпер ён усяго дасягне, і жонка ўжо ніколі не папракне тым, што ён бядняк, ажаніўся з дзяўчынай з заможнай сям'і. Але выпрабаванні Янкі на гэтым не скончыліся, бо краіна ўступала ў складаны гістарычны перыяд. Перажыўшы дзве сусветныя вайны, рэвалюцыю, польскую «санацыю», сталінскую эпоху, людзі паранейшаму шануюць мову, любяць сваю зямлю і аддаюць ёй усе сілы.

У аповесці пісьменнік паказвае гістарычныя падзеі XX стагоддзя вачыма селяніна Янкі, сапраўднага гаспадара, які заўсёды хацеў палепшыць уласнае жыццё, пакінуць нешта пасля сябе дзецям. Так, у часы польскай санацыі герой твора гадуе валоў, займаецца пчалярствам. Ён шчыра дапамагае суседзям, якія і прыходзяць яму на дапамогу. Янку лічылі вельмі мудрым гаспадаром, таму прыслухоўваліся да яго ў цяжкія гады. Яшчэ перад пачаткам




калектывізацыі ён зразумеў, што трэба ўступаць у калгас, бо бальшавіцкая ўлада не даруе тым, хто супраць.

Аднак не абмінулі сям'ю рэпрэсіі. Разам з сынам і зяцем Янка высланы на дзесяць гадоў у Сібір. У 65 гадоў ён апынуўся на лесапавале. І толькі любая Марыйка змагла выратаваць і вярнуць мужа дадому праз 5 гадоў.

Пасля смерці жонкі Янка застаўся адзін. Яго родная сяліба старэла разам з ім. Ён часта ўглядаўся ў мінулае, імкнуўся вылучыць нешта значнае, адчуваў трывогу за лёс дзяцей і ўнукаў. Практычна «пячаць стагоддзя ляжала на твары старога, ён пражыў вельмі шмат, нават зашмат як на аднаго. Адной такой біяграфіі магло б хапіць на некалькі людзей». Сапраўды, гэта было жорсткае, складанае стагоддзе. І пісьменнік у сваім творы паказвае жудасныя падрабязнасці прыходу розных улад на Беларусь.

Аповесць Анатоля Брытуна «Сяліба» напісана ўсё той жа зразумелай мовай. Мы бачым простага, працавітага селяніна, патрыёта, сапраўднага гаспадара. Была ў Янкі магчымасць з'ехаць з сям'ёй у Амерыку, але ён выбраў складанае, цяжкае жыццё на сваёй роднай зямлі.

Бясспрэчна, творы Анатоля Брытуна будуць цікавыя чытачам рознага ўзросту, прынясуць асалоду, падштурхнуць да асэнсавання гісторыі і ўласнага лёсу.

**Таццяна ЦІХАН**

*Чытальная зала*

# Рамяство. Цэхі. Горад

## У манаграфіі доктара гістарычных навук Людмілы Сямёнавай «Рамесны Мінск на зыходзе XIX стагоддзя»

**Добра вядома, што навукоўцы даследуюць рамяство з розных пунктаў гледжання, звяртаючы ўвагу на пэўныя аспекты справы. Так, сфарміраваліся традыцыі вывучэння рамяства ў якасці эканамічнага ўкладу, сацыяльна-прафесійных цэхавых карпарацый феадальнага грамадства, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і г. д. Прадметнай галіной новай манаграфіі Людмілы Сямёнавай стаў сацыяльны зрэз рамеснай вытворчасці.**

Вядома, што сацыяльныя адносіны выглядаюць больш рэльефна і напаўняюцца дзеяннямі канкрэтных людзей, калі гаворка ў працы ідзе пра невялікі часавы адрэзак і маленькі геаграфічны маштаб. Храналагічныя межы дадзенага даследавання ахопліваюць апошнюю трэць XIX ст. Геаграфічным арэалам стаў Мінск. Перш чым звярнуцца да мінскага рамесніцтва, аўтар прадстаўляе гісторыка-культуралагічны нарыс пра горад як цэнтр прадпрымальніцкай актыўнасці, даследуе прамысловае развіццё беларускіх гарадоў у XIX — пачатку XX стст., аналізуе індустрыяльнае аблічча Мінска. На такім маштабным фоне аўтар выконвае рэканструкцыю шэрагу істотных аспектаў сацыяльна-працоўных адносін мінскага рамесніцтва напрыканцы існавання яго цэхавай арганізацыі.

Даследчыца разглядае цэхавую арганізацыю і прававыя падмуркі функцыянавання ўсіх яе элементаў, якія зафіксаваны ў рамесным статуце Расійскай імперыі. Менавіта гэты дакумент рэгуляваў дзейнасць цэхаў у той час. У асобнай главе апісваецца прафесійная дзейнасць мінскіх рамесных цэхаў, прадукцыя, што там выраблялася, а таксама матэрыялы і прылады працы, якімі карысталіся падчас вытворчасці. Людміла Сямёнава звяртае ўвагу і на сацыяльна-працоўныя адносіны, распавядае, як выдаваліся атэстаты для працы ў цэху, як траплялі сюды прадстаўнікі немяшчанскіх сацыяльных слаёў — сялян, дваран. Адметна, што ў той час назіралася канкурэнцыя цэхаў з няцэхавымі рамеснікамі, таму даследчыца звяртае ўвагу і на спосабы, якімі карысталіся кіраўнікі цэхаў для ўтрымання манаполіі на прафесійную дзейнасць у пэўнай галіне.

Канфлікты паміж майстрамі і вучнямі, сутычкі і забастоўкі, змовы — усё гэта таксама знайшло адлюстраванне ў новай кнізе даследчыцы. Адметна, што ў аснове манаграфіі Людмілы Сямёнавай — шырокая база дакументальных крыніц з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, заканадаўчыя акты, матэрыялы статыстыкі.

**Міхаіл СТРАЛЕЦ**

Далягляды

# Важнасць дыялогу

**Украінска-беларускія літаратурныя сувязі ў нацыянальным прыгожым пісьменстве, як вядома, адны з самых цесных. Гэтаксама не сакрэт, што асабліва важкі ўклад у іх даследаванне ўнеслі Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша. Адметна і тое, што ў гэтым кірунку яны працуюць па-ранейшаму плённа. Сведчанне таму — створаны імі вучэбны дапаможнік «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі».**

Першая яго частка пабачыла свет тры гады таму і асвятліла згаданую праблематыку ад сівой даўніны да канца XVIII стагоддзя. А не так даўно выйшла і другая частка дапаможніка.

Як і першая кніга, новае выданне, несумненна, выкліча зацікаўленасць у шырокага чытача, а не толькі ў студэнтаў ВНУ па філалагічных спецыяльнасцях, каму ў першую чаргу дапаможнік адрасаваны. Яно і зразумела. Т. Кабржыцкая і В. Рагойша глыбока і ўсебакова аналізуюць асноўныя тэндэнцыі станаўлення ўкраінскага прыгожага пісьменства на працягу двух найважнейшых перыядаў. Першы з іх — XIX стагоддзе, якое на Украіне з-за сваёй выключнай значнасці атрымала назву Новай украінскай літаратуры. Другі — канец XIX стагоддзя — першыя дзесяцігоддзі XX-га.

Не сказаць, каб на гэты час не звярталі ўвагі іншыя даследчыкі, у тым ліку і тыя з іх, хто жыве за межамі Беларусі. Аднак, як слушна заўважаюць Т. Кабржыцкая і В. Рагойша ва ўступным артыкуле, «трэба прызнаць, што ўкраінскія вучоныя сёння, аналізуючы стан распрацоўкі праблем славістыкі, працуюць пераважна ў рэчышчы заходнеславянскіх кантактаў, беларусістыка ж аб'ектам у іх даследаваннях становіцца толькі спарадычна. Большай увагай да аналізу ўкраінска-беларускіх культурных кантактаў пазначаны працы беларускіх літаратуразнаўцаў». У цэлым жа, зыходзячы з названых рэалій, нельга сцвярджаць, што "ўсе заканамернасці культурнага ўзаемадзеяння ўкраінцаў і беларусаў знайшлі належную распрацоўку».

Таму аўтары кнігі ўзяліся ліквідаваць, наколькі гэта магчыма, прабелы ў навуковым асэнсаванні гісторыі літаратурных узаемасувязей украінцаў і беларусаў на працягу згаданых вышэй перыядаў. Больш за тое, яны вырашылі «даць сістэматызаваны агляд усіх відаў і форм сувязей, устанавіць заканамернасці развіцця гэтых сувязей, іх месца ў гісторыі ўкраінска-беларускага літаратурнага яднання». Ва ўжытак уводзіцца мала або зусім невядомыя факты, дзякуючы якім можна атрымаць уяўленне пра тое, наколькі плённа адбываліся літаратурныя кантакты двух народаў. Калі ж да аналізу прыцягваюцца шматлікія газетныя і часопісныя публікацыі, раскіданыя па розных выданнях, дык яны не проста асэнсоўваюцца, а абагульняюцца дзеля таго, каб атрымаўся цэласны малюнак.

Што ні раздзел кнігі — то міні-манаграфія, якая вызначаецца грунтоўнасцю, аб'ектыўнасцю аўтарскіх разваг, што вядзе да ўсебаковасці ахопу закранутых праблем, здатнасцю аўтараў пісаць не толькі пераканаўча, але і даходліва. Апошняе, несумненна, выклікана тым, што гэтая кніга, як і папярэдняя, першнаперш вучэбны дапаможнік, разлічаны на спецыфічную аўдыторыю, са сваім успрыманнем.

Пачынаючы з першага раздзела «Еўрапейскі культурны працэс XIX — першых дзесяцігоддзяў XX ст. і асаблівасці развіцця ўкраінскай літаратуры» аўтарскія развагі падначалены таму, каб пры мінімальным аб'ёме даць як мага больш інфармацыі, разам з тым, безумоўна, такой, што нясе ў сабе важкі патэнцыял, дый не з'яўляецца, як кажуць, слізганнем па паверхні. З гэтым Т. Кабржыцкая і В. Рагойша паспяхова спраўляюцца.

Не апошнюю ролю адыгрывае вялікі даследчыцкі досвед аўтараў. Але, несумненна, нельга адмаўляць і цудоўнага ведання імі прадмета гаворкі. Таму найноўшыя пошукі ўдала спалучаюцца з ранейшымі навуковымі здабыткамі. Не менш удала падабраны і назвы падраздзелаў. Для прыкладу: «Ідэйна-стылёвыя кірункі ўкраінскай прозы другой паловы XIX ст.», «Агульнаеўрапейскія мастацкія пошукі і ўкраінскае пісьменства канца XIX — першых дзесяцігоддзяў XX ст.», «Тыпалогія ўкраінскага і беларускага творчага мыслення пачатку XX ст.». Адразу чытацкая ўвага скіроўваецца на самае галоўнае, істотнае.

Шмат падстаў для роздуму дае раздзел «Украінская літаратура XIX ст. у постацях: урокі спасціжэння нацыянальнай ідэнтычнасці народа». Постаці, на якіх аўтары спыняюць увагу, сапраўды знакавыя: Іван Катляроўскі, Грыгорый Квітка-Аснаўяненка, Тарас Шаўчэнка, Маркіян Шашкевіч, Юрый Фядзьковіч, Іван Нячуй-Лявіцкі, Барыс Грынчэнка, Іван Франко. Кожнаму з іх прысвечаны асобны падраздзел. І пра кожнага гаворыцца так, што абавязкова з'яўляецца жаданне з цягам часу яшчэ больш пазнаёміцца з іх жыццём і творчасцю. Дарэчы, зрабіць гэта не так і цяжка: у канцы кожнага раздзела прыводзяцца бібліяграфічныя спасылкі на літаратуру, якая можа зацікавіць.

Раздзелы ж «Беларуская літаратура ва Украіне і пытанні кантактна-тыпалагічных сувязей пачатку XX ст.» і «Украінскае прыгожае пісьменства ў беларускім літаратурным працэсе пачатку XX ст.» — гэта як бы адзін блок, асобныя часткі якога асабліва цесна ўзаемазвязаныя. Дый у аднолькавай ступені сведчаць на карысць таго, што з абодвух бакоў — як з украінскага, так і з беларускага — не проста існаваў узаемны інтарэс да таго, што адбывалася на літаратурным палетку ў суседзяў, але і жыло жаданне лепшыя творы перакласці на родную мову. І як вынік — пачалі з'яўляцца пераклады ў перыядычным друку. На Беларусі клопатна ставіліся да гэтага газеты «Северо-Западный край» і «Наша Ніва».

Пра ўкраінска-беларускія і адпаведна беларуска-ўкраінскія літаратурныя стасункі гаворыцца і ў раздзеле «Сувязныя народаў і культур». Ужо з назваў падраздзелаў відаць, хто ж гэтыя руплўцы на ніве творчага пабрацімства: «Тарас Шаўчэнка і Беларусь», «Васіль Стафанік як "Мужыцкі пасол" не толькі ў Аўстра-Венгрыі, але і ў беларускай літаратуры», «Максім Багдановіч: тэорыя і практыка міжкультурных дыялогаў».

Па-новаму зірнуць на ўкраінска-беларускія літаратурныя сувязі дазваляе і раздзел «Сацыякультурны кантэкст творчых пошукаў украінскіх і беларускіх пісьменнікаў у адраджэнцкія 20 — 30-я гг. XX ст.».

Ужо сёння відавочна, што дапаможнік «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі», распрацаваны Вячаславам Рагойшам і Таццянай Кабржыцкай, — важкае дасягненне ў сучасным літаратуразнаўстве. Адметна, што чытачоў у будучыні чакае і трэцяя частка гэтай грунтоўнай працы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Падарожжа ў часе




Прэзентацыя кнігі даследчыка гісторыі, краязнаўца Віктара Саяпіна «50 гарадзенскіх вуліц. Прагулка ў часе» прайшла ў Гродзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага. Цікава, што гэта ўжо трыццаць трэцяя яго кніга.

У выданне аб'ёмам 320 старонак увайшло больш як 400 фотаздымкаў, многія з якіх публікуюцца ўпершыню. Гродна мае тысячагадовую гісторыю, натуральна, што з цягам часу змяніўся твар горада, мяняліся і назвы вуліц. Архіўныя дакументы пацвярджаюць, што некаторыя з іх былі перайменаваныя 30 разоў! І гэта нядзіўна: змянялася ўлада, палітычныя рэжымы ў краіне і горадзе. Так, за сваю гісторыю Гродна ўваходзіла ў склад сямі розных дзяржаў.

Віктар Саяпін зрабіў вялікую працу, усталяваў «радавод» 50 вуліц. Сваю цікавасць даследчык пачаў ажыццяўляць яшчэ ў 1990-я гады, публікаваў матэрыялы ў перыёдыцы, а з 2010 г. знаёміць чытачоў з віртуальнымі шпацырамі па гродзенскіх вуліцах.

Аўтар распавёў пра сваю велізарную працу ў архівах Гродна, пра супрацоўніцтва з такімі вядомымі гісторыкамі, як Ігар Трусаў, Аляксандр Госцеў, Юрый Гардзееў, з таленавітай фотамастачкай Наталляй Дораш. Яны дзяліліся невядомымі фотадакументамі са сваіх прыватных калекцый. Сакратар гарадской тапанімічнай камісіі Т. Жышко распавяла пра неацэнную дапамогу, якую аказаў Віктар Саяпін у 2014 годзе, калі назвы гарадскіх вуліц прыводзілі ў адпаведнасць да норм..

**Ірына ШАТЫРОНАК**

# Буктрэйлер, краўдфандынг, букмэйт

Гэтыя на першы погляд чужыя і новыя словы цягам 2015 года трывала ўвайшлі ў слоўнік беларусаў, якія зацікаўленыя чытаннем. Кніжныя праекты, звязаныя менавіта з такімі дзіўнымі назвамі, сёлета былі ў трэндзе і, безумоўна, будуць з намі ў наступным годзе.

## ХОЧАШ КНІГУ? АХВЯРУЙ

У еўрапейскіх краінах ужо досыць даўно распаўсюджаная практыка друкаваць пэўную колькасць асобнікаў кнігі (нават адзін ці два), калі на іх ёсць адмысловыя адрасны заказ. Так выдаўцы і аўтар могуць адсочваць запатрабаванасць кнігі, яе поспех, а таксама пазбегнуць вялікіх выдаткаў на публікацыю тысячных накладаў. У нашай краіне сёлета паспрабавалі крыху іншую сістэму — усёй талакой збіраць сродкі на выданне тыражу праз адмыслова распрацаваную інтэрнэт-платформу. Адсюль і назва — краўдфандынг (з англ. фінансаванне натоўпам).

Такім чынам, цягам 2015 года атрымалася знайсці грошы на некалькі важных і цікавых праектаў. Дзявяты нумар часопіса беларускай прозы «Макулатура» ўжо здадзены ў друк (усе, хто ахвяраваў грошы, атрымаюць асобнік бескаштоўна), ёсць неабходная сума для публікацыі зборніка «Нататкі пра Шэрлака Холмса» Артура Конан Дойла, над якім працавала цэлая група перакладчыкаў, а ў выдавецтве «Галіяфы» выйшла сімпатычная дзіцячая кніга Міхася Зізюка «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя».

Сістэма краўдфандынгу дазваляе зразумець, ці будзе кніга запатрабаваная на рынку, ці гатовыя людзі падтрымаць праект фінансава, а ў далейшым стаць яго спажыўцамі (ці чытачамі). Маеце цікавы праект? Рэгіструйцеся на адмысловым сайце, магчыма, хутка ён будзе рэалізаваны.

## ЧЫТАЙ ПАЎСЮЛЬ

У Беларусь сёлета прыйшоў міжнародны сервіс *Bookmate*. За невялікую плату ён прадастаўляе доступ да велізарнай бібліятэкі, дзе сабрана больш як 200 тысяч выданняў на розных мовах, дае магчымасць карыстальнікам ствараць уласныя віртуальныя паліцы, дзяліцца ўражаннямі ад знаёмства з творамі. Адметна, што чытаць кнігі з *Bookmate* можна не толькі на мабільным тэлефоне, але і на камп'ютары, планшэце — варта проста спампаваць з сайта адмысловы дадатак. Пры чытанні можна карыстацца рознымі прыладамі, яны будуць сінхранізавацца і паказваць тую старонку кнігі, на якой вы спыніліся.

Заснавальнікі бібліятэкі правялі даследаванні і падлічылі, што за чытаннем з дапамогай дадатку карыстальнік праводзіць прыкладна 50 хвілін на дзень. Але гэта не значыць, што чалавек адкрыў кнігу і амаль цэлую гадзіну запар правёў з ёй. Ён чытае ў чарзе, калі едзе ў метро ці чакае сябра. Гэта ж лепш, чым патраціць час на гульню ці сацыяльныя сеткі!

Цікава, што з'яўленне *Bookmate* ў нашай краіне мае станоўчы ўплыў на развіццё электроннага кнігавыдання. Так, прадстаўнікі бібліятэкі гатовыя аказваць айчынным выдаўцам дапамогу ў падрыхтоўцы электронных версій кніг у адмысловым фармаце для мабільных прылад *epub*. Адметна, што ўвесь кантэнт бібліятэкі абсалютна легальны (з кожным аўтарам заключаецца дамова на размяшчэнне кнігі) і абаронены ад піратаў.

## ПЕРАТВОРАНЫЯ Ў РОЛІК

«Пасля прачытання — зняць» — пад такім слоганам у нашай краіне праходзіць фэст мабільных ролікаў *velcom Smartfilm*. Для ўдзелу запрашаюцца рэжысёры, гатовыя толькі з дапамогай смартфона зняць буктрэйлер — кароткі відэаролік пра сваю любімую кнігу. Адметна, што натхняльным можа стаць любы літаратурны твор. Арганізатарамі прадугледжаны і адмысловы прыз для пераможцы ў намінацыі «Найлепшы буктрэйлер беларускай літаратуры».

Падчас майстар-класаў з рэжысёрамі, кінакрытыкамі, пісьменнікамі ўдзельнікі фестывалю вучацца ўвасабляць свае задумкі ў жыццё. Але сябры журы папярэджваюць: буктрэйлер — не экранізацыя кнігі, не трэба імкнуцца за 1-2 хвіліны ў відэа пераказаць сюжэт рамана — важна перадаць ураджанне, аўру тэксту. Кніжны ролік па характары бліжэй да музычнага кліпа, чым да фільма. Айчынныя пісьменнікі гатовыя прапанаваць рэжысёрам і яшчэ нявыдадзеныя творы. Магчыма, праз некаторы час гэтыя буктрэйлеры стануць важнай часткай рэкламнай кампаніі кнігі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Камран НАЗІРЛІ: «Беларусь як адна цікавая кніга...»

**У Беларусі і Азербайджана выбудоўваюцца трывалыя літаратурныя стасункі. Часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман», газета «Літаратура і мастацтва» неаднойчы ў апошні час прадастаўлялі свае старонкі перакладам з азербайджанскай паэзіі і прозы на беларускую і рускую мовы. У Выдавецкім доме «Звязда» выйшлі кнігі азербайджанскіх аўтараў па-беларуску — Чынгіза Алі аглу і Севіндж Нурукызы. «Літаратура і мастацтва» зусім нядаўна змясціла пераклад апавядання Камрана Назірлі. А вось зараз мы прапануем увазе чытачоў гутарку з азербайджанскім празаікам і перакладчыкам.**

**— Камран, вы неаднойчы гасцявалі ў Беларусі... Што вам падалося найболей цікавым у нашай краіне?**

— Упершыню я наведаўся ў Мінск у 1987 годзе. Горад тады мяне зачараваў. І вось у 2015-м я ізноў прыехаў у беларускую сталіцу. І цяпер таксама аказаўся ў палоне таго ж трапяткога зачаравання. Цяпер у мяне была магчымасць даўжэй пабыць у Мінску, наведаць ваколіцы. Мне ўсё ў вашай краіне падалося цікавым і прыгожым: нават паветра ў вас мае свае вытанчаныя пахі і колеры, а якія вада, зямля... Ды сярод гэтых каштоўнасцей асаблівую прыцягальнасць мае сам беларускі чалавек. Адкрыты, таварыскі, кантактны. Мяне, як падарожніка са стажам, цяжка нечым здзівіць. А беларускі чалавек зрабіў гэта з лёгкасцю. Мне падаецца, што ў вас вельмі высока развіта пачуццё патрыятызму. Гэта перакананне ўва мне сфарміравалі сустрэчы з людзьмі розных сацыяльных груп. Незалежна ад узросту ўсе яны любяць сваю зямлю, свой горад, сваю Радзіму.

> *Разбягаючыся адна ад другой, нацыянальныя літаратуры ўсё роўна не могуць жыць паасобку. Патрэбны параўнанні, патрэбна кроў свежая... Вось наладжваюцца зараз — і дастаткова інтэнсіўна — стасункі ў эканоміцы, палітыцы на постсавецкай прасторы. Дык чаму б нашым пісьменнікам не быць болей руплівымі, актыўнымі ў паяднанні літаратурных, мастацкіх сіл?*

Я схіляю галаву перад беларускім чалавекам, які жыве клопатамі сваёй вёскі, свайго роднага паселішча, свайго горада, сваёй краіны. І бачыў, як беларусы ставяцца да такіх паняццяў, як «родны дом», «родная сям'я». І мне гэта імпануе найперш, бо я перакананы, што галоўнай характарыстыкай чалавечай годнасці, сумлення з'яўляецца менавіта стаўленне да блізкіх, да сям'і, да роднага дома, роднага паселішча.

**— Якія ў вас раней былі ўяўленні пра Беларусь?**

— Калі я яшчэ вучыўся ў сярэдняй школе, аднойчы бацька вярнуўся дахаты вельмі падаўленым. Вочы яго былі напоўнены слязьмі. Маці запыталася, што здарылася. Бацька адказаў, што загінуў у аўтамабільнай аварыі першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, Герой Савецкага Саюза, былы партызанскі кіраўнік Пётр Міронавіч Машэраў. Мой бацька на той час быў адным з партыйных кіраўнікоў у слаўтым Астарынскім раёне, дзе я і нарадзіўся. Сумленны, справядлівы чалавек, ён вельмі тады абураўся: «Як гэта магло так здарыцца, каб загінуў такі справядлівы і сумленны кіраўнік! Вельмі і вельмі шкада! Вялікая для ўсіх страта!..» Так я ўпершыню пачуў пра Беларусь, якую і да цяперашняга дня атаясамляю з лёсам краіны-партызанкі. Пазней даведаўся пра тое, што вашу Айчыну ад фашыстаў вызваляў і мой зямляк — двойчы Герой Савецкага Саюза генерал Азі Асланаў. Рады, што ёсць яму ў Беларусі помнік.

**— Творчасць якіх беларускіх пісьменнікаў была знаёмай вам да наведвання Мінска?**

— Яшчэ са студэнцкіх гадоў запалі ў памяць радкі з вершаў, паэм Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. Чытаў ваенныя аповесці Васіля Быкава. А яшчэ неяк на вочы мне патрапіў двухтомнік успамінаў былога савецкага міністра замежных спраў Андрэя Грамыкі. З яго кнігі я даведаўся, што Грамыка — з Гомельшчыны. З цікавасцю праз яго тэкст адкрываў для сябе дзяцінства беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак з іншага часу. І калі перагарнуў апошнія старонкі мемуарнай кнігі, яшчэ раз парадаваўся, якіх сыноў падаравала свету ваша Беларусь.

**— Наколькі цікавай вам падаецца сучасная беларуская літаратура?**

— Па праўдзе кажучы, неяк так склалася, што да нядаўняга часу я мала цікавіўся сучаснай беларускай літаратурай. А вось паездка ў Беларусь летам 2015-га стала ў некаторым сэнсе пераломнай у гэтым плане. Канечне ж, паспрыялі сустрэчы, жывыя кантакты. Мае землякі, якія даўно жывуць у Беларусі, Мінску, дапамаглі пазнаёміцца з беларускімі пісьменнікамі. Арганізавалі для мяне сустрэчу ў адной з бібліятэк Мінска. Я пабываў у рэдакцыях літаратурных выданняў. Адкрыццём стала для мяне, што вы стараецеся прапагандаваць сучасную азербайджанскую літаратуру. Дзякуй «Літаратуры і мастацтву» за публікацыю майго апавядання па-беларуску — «Зія і Леанід Ільіч Брэжнеў».

А я набраў з сабою ў Баку шмат кніг беларускіх аўтараў. І дзіцячых пісьменнікаў, і тых, хто піша для дарослага чытача. Уражаны апавяданнем «Ідэальны чытач» Алеся Бадака. Пераклаў яго на азербайджанскую мову. Вельмі ўзрадаваўся, калі ваша зямлячка Святлана Алексіевіч была адзначана Нобелеўскай прэміяй. І ўжо паспеў перакласці на азербайджанскую мову яе раман «У вайны не жаночы твар». Канечне ж, адзін я мала што змагу зрабіць, каб шырока прадставіць цікавую беларускую літаратуру азербайджанскаму чытачу на яго роднай мове. Але, можа быць, мой прыклад паспрые развіццю ўвагі, паспрыяе таму, што і іншыя будуць перакладаць сваіх равеснікаў, сучаснікаў з Беларусі. Як робіць гэта, прыкладам, у галіне дзіцячай літаратуры Севіндж Нурукызы. У нас ёсць Цэнтр перакладу пры Кабінеце міністраў. Чаму б вам, вашым пісьменнікам не кантактаваць болей актыўна менавіта з імі?..



Камран Назірлі.

**— І ўсё ж, як вы лічыце, ці так неабходны па сённяшнім часе працэсы збліжэння, яднання нацыянальных літаратур? Некалі ж нямала штучнасці спадарожнічала гэтай з'яве, што замыкалася ў разуменні «дружба народаў — дружба літаратур»...**

— У нас у Азербайджане ёсць такая прыказка: «Плача не той, хто страціў маёмасць, плача той, хто страціў сябра». У канцы мінулага стагоддзя развальўся велізарны і магутны Савецкі Саюз. Мы ўбачылі людзей, якія страцілі надзеі, веру, дасягненні, сабраныя як скарб неверагоднага кошту на працягу дзесяцігоддзяў. Сабраныя дзякуючы вялікай самаахвярнай працы. Мы сталі сведкамі разбурэння гістарычных традыцый, пралівання крыві нацый і народнасцей, тых нацый, якія жылі разам, сябравалі, шчыра віталі адна адну... Дык няўжо так і застанемся пакаленнем разбуральнікаў?.. Ведаю дакладна адно: тыя, хто парушыў сувязі паміж народамі, бязглузда пераўтварылі сяброў у ворагаў. І навошта?!. Які сэнс у гэтых пераўтварэннях, разбурэннях?!. Разбягаючыся адна ад другой, нацыянальныя літаратуры ўсё роўна не могуць жыць паасобку. Патрэбны параўнанні, патрэбна кроў свежая... Вось наладжваюцца зараз — і дастаткова інтэнсіўна — стасункі ў эканоміцы, палітыцы на постсавецкай прасторы. Дык чаму б нашым пісьменнікам не быць болей руплівымі, актыўнымі ў паяднанні літаратурных, мастацкіх сіл?

Паглядзіце, якія ў Азербайджана і Беларусі, азербайджанцаў і беларусаў мудрыя палітычныя лідары — Ільхам Аліеў і Аляксандр Лукашэнка. Вучыцеся, шаноўныя калегі-пісьменнікі!.. Вучыцеся, як трэба сябраваць, як шчыра выбудоўваць адносіны і спрыяць умацаванню за кошт гэтай дружбы сваіх краін, сваіх дзяржаў. А ў літаратуры, мастацкім перакладзе, як нідзе, грунт выбудоўваецца на асабістых стасунках, на ініцыятыве яркіх адораных асоб. Збліжэнне літаратур — гэта збліжэнне народаў. І таму мы павінны сябраваць, углядацца ў сутнасныя мастацкія працэсы, што адбываюцца ў нашых літаратурах.

**— Вы шмат падарожнічаеце... Вам ёсць, з чым параўноўваць. Як вы лічыце, ці відаць беларускую літаратуру чытачам іншых краін?**

— Беларусь уяўляецца мне адной цікавай кнігай. Але, пэўна ж, як і Азербайджан, кнігай яшчэ не прачытанай у свеце. Столькі зараз, у апошнія дзесяцігоддзі, усяго адбылося, што гаварыць пра традыцыйныя катэгорыі адкрыцця, успрымання нацыянальнага прадукту ў свеце проста не даводзіцца. І тут не толькі геаграфія з палітыкай на тое прычыны, але ж і новыя тэхналагічныя з'явы, якія прымушаюць свет, чалавека развівацца інакш. Людзі аддаліліся ад кнігі. А ўсё ж менавіта кніга пакуль што носьбіт сапраўднай мастацкай літаратуры.

Паглядзіце, тут жа лёс літаратуры, якая на працягу многіх стагоддзяў уплывала на ўсё свядомае жыццё чалавека, яго духоўнасць, яго маральныя аблічча, знаходзіцца зараз пад пытаннем. Замест таго, каб захаваць маральныя каштоўнасці, мы выбіраем сумніўныя каштоўнасці інфармацыйных тэхналогій, выбіраем цацкі інтэрнэту. І новыя літаратурныя пакаленні, пісьменніцкая моладзь, спакушаная сучаснымі сродкамі распаўсюджвання слова, аддае сябе на закланне камп'ютарным экранам.

А як па мне, то рана чалавецтва адмаўляецца ад друкаванай, папяровай кнігі, рана адмаўляецца ад удумлівага прачытання мастацкіх вобразаў і сімвалаў.

У век інтэрнэту прыгажосць набывае новыя характарыстыкі, становіцца дамай у электроннай вопратцы. Наступае век здрады кнізе. І хіба тут нешта можна ўсур'ёз гаварыць пра тое, што чытач іншага свету заўважыць нашы непрачытаныя кнігі. Усе жадаюць хваляванняў, драматычнага выкладання рэчаіснасці. Крымінальныя хронікі пра шараговыя забойствы пасуюць перад хронікамі тэрарыстычных актаў.

Але гэта не значыць, што трэба замыкацца ў саміх сябе. Літаратура — гэта дыпламатыя. І мы ўжо гаварылі пра вартасці сапраўднай дружбы, сапраўднага сяброўства... Іншая справа — што, намагаючыся ўскалыхнуць свет, імкнучыся расказаць пра уласныя здабыткі ў нацыянальнай літаратуры, а праз яе — і завесці размову з чытачом іншага свету, варта востра і пранізліва расказваць пра свой народ, яго болі і драмы, яго вышыні і глыбіні, яго мудрасць і трагедыі. Літаратура — гэта яшчэ і шчырасць.

Беларускі мастацкі свет паўстаў праз зробленае Святланай Алексіевіч. Хаця я ўпэўнены, што ў беларусаў шмат вартых пісьменнікаў. Ды Святлана Алексіевіч, як ніхто іншы, здолела боль вылучыць на ўсеагульны агляд. А сённяшнія болі і крыві гэтульки, што расказваць свету пра жыццё без увагі да гэтага проста нельга. Інакш літаратара будзе пазбаўлена шчырасці.

**— А вам хацелася б пажыць у Беларусі? А мо нешта жадаеце і напісаць пра нашу краіну?**

— З вялікім задавальненнем прыехаў бы ў Беларусь яшчэ неаднойчы. Надарылася б атрымаць такую творчую камандзіроўку, такое спрыянне, каб мне адкрылі Беларусь, пазнаёмілі з многімі яе гарадамі і вёскамі, то папрацаваў бы тут як пісьменнік і публіцыст. Тут жа ваяваў ужо згаданы Азі Асланаў. Чаму б не напісаць аповесць пра яго беларускія судакрананні?.. Некалі я дапамагаў яго сыну высвятляць акалічнасці ўзнагароджвання генерала другой зоркай Героя Савецкага Саюза. Удзельнічаў у падрыхтоўцы зваротаў у ЦК КПСС. І тады праўда была ўзноўлена. Дзякуй беларусам, што трымаюць у сваёй памяці нашага выдатнага земляка! І дзякуй вам, беларусы, беларускія пісьменнікі, за тое, што з прызнасцю ставіцеся да ўсіх нацый і народнасцей. Гэта дарагога каштуе!..

**Гутарыў Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

# Музыка «цяпер»

## Джаз побач з класікай — на мове імправізацыі

**Леанід Чыжык — адзін з выдатных прафесійных джазавых музыкантаў у Савецкім Саюзе, майстар імправізацый, народжаных літаральна за пару хвілін, мелодый, пазбаўленых межаў, але такіх натуральных і дасканалых, нібы шліфаваных гадамі. Дзякуючы таленту і творчай энергіі яму ўдалося прыўнесці ў музычнае мастацтва таго часу свабоду, натуральнасць, рытмічную разнастайнасць, прыадчыніўшы заслону над новым і незвычайным. Піяніст усёй душой палюбіў джаз, ён быў апантаны ідэяй, што гэтую музыку павінны прызнаць у СССР. Часта яго перакананні ішлі насуперак афіцыйным догмам. Але поспех майстра быў непазбежны. Ён пранёс свой дар праз усе выпрабаванні.**



### МУЗЫЧНАЕ ДЗЯЦІНСТВА

Леанід Чыжык музыкантам быў народжаны. Гэта стала зразумела яшчэ ў раннім дзяцінстве. На масавых гуляннях, дзе іграў аркестр, трохгадовы Лёня не мог уседзець у глядзельнай зале, станавіўся недалёка ад дырыжора і па-свойму кіраваў выступоўцамі. Бацькі Леаніда з інжынернага асяроддзя. З музыкай прафесійна не былі звязаны, але вельмі ёй захапляліся. Упершыню доступ да раяля Леанід Чыжык атрымаў у чатыры гады ў доме суседзяў. Калі чуў знаёмую мелодыю, мог сам падабраць ноты і прайграць яе. Яго талент заўважылі і пачалі развіваць. У пяць хлопчык ужо трапіў да свайго першага настаўніка. Іх сустрэча адбылася ў музычнай вучэльні ў Харкаве падчас педагагічнай практыкі. Студэнты апошніх курсаў бралі шэфства над адоранымі маленькімі музыкантамі, тым самым перадаючы вопыт, дэманструючы свае поспехі ў педагагічным майстэрстве. Пасля гэтага Леанід Чыжык паступіў у Цэнтральную музычную школу-дзесяцігодку. У той час, як многія дзеці Савецкага Саюза ў школах вывучалі матэматыку, мовы, біялогію і іншыя агульнаадукацыйныя прадметы, дзеці ў цэнтральных музычных школах больш увагі надавалі ігры на інструментах, сальфеджыа, гармоніі, гісторыі музыкі.

З-за таго, што Леанід Чыжык з малых гадоў быў вельмі музычны, ледзь не адбылася памылка, якая магла б змяніць яго лёс. Выкладчыкі звярнулі ўвагу на абсалютны слых і здольнасць да амаль імгненнага ўзнаўлення мелодыі і настойліва параілі бацькам аддаць хлопчыка ў клас скрыпкі. Але з-за асаблівай будовы кісцей рук, што не дазваляла трымаць грыф інструмента правільна, яго ўсё ж такі перавялі на фартэпіяннае аддзяленне. Акрамя гэтага, музыкант вучыўся на тэарэтычным і кампазітарскім аддзяленнях. У дзесяць гадоў Леанід ужо мог свабодна выконваць варыяцыі. Педагогі заахвочвалі цягу юнага таленту да аўтарскага прачытання вядомых твораў. Часта ён забаўляў увесь клас на перапынках сваімі яркімі імправізацыямі.

### ДА ПРЫЗНАННЯ ПРАЗ НЕРАЗУМЕННЕ

Чалавек, адданы свайму сапраўднаму пакліканню, заўсёды дамагаецца поспеху. Нават у той сферы, якая была не да часу і не да месца. Джаз прыйшоў у жыццё Леаніда Чыжыка, калі яму было адзінаццаць гадоў. Пачутае па радыё "Голас Амерыкі" яго заваражыла. «У джазавай музыцы я адчуў абсалютную натуру, існасць, рытмічную напоўненасць. І галоўнае, што ў ёй ніколі не было паўтораў. Гэта заўсёды было новае гучанне. Калі я пачуў джазавую музыку, то зразумеў, што без яе далей жыць не змагу», — кажа піяніст.

Леанід Чыжык стаў прафесійным джазавым музыкантам, які зарабляў на жыццё выключна мовай гэтага мастацтва. У СССР джаз быў чымсьці чужародным, заходнім і непажаданым. «Спачатку мне даводзілася быць вельмі акуратным і рабіць вывераныя, эфектныя, хуткія і віртуозныя творы на тэмы савецкіх кампазітараў. Гэта быў джаз, але не на сто працэнтаў. Хутчэй, сцэнічнае рашэнне, частка маёй барацьбы за станаўленне гэтага мастацтва ў Савецкім Саюзе», — дзеліцца ўспамінамі Леанід Чыжык.

Ён ладзіў вечарыны, прысвечаныя джазу і ўсяму, што гэтай музыкі тычылася. Адукоўваў публіку, паказваў новы напрамак у мастацтве — пакрысе, паступова. «Я давяраю лёсу, Богу, прыродзе. Я адчуваў, што я народжаны для чагосьці значнага», — заўважае піяніст, азіраючыся на свае дасягненні. Ён заўсёды прытрымліваўся думкі, што калі ў чалавека ёсць дар, то неабходна пранесці яго праз усе выпрабаванні. Леанід Чыжык упарта выступаў за афіцыйнае прызнанне джаза ў Савецкім Саюзе. Часам даводзілася ісці на ахвяры. Але ён не сумняваўся, што гэта — часова неабходны сродак для таго, каб мастацтва магло жыць далей. Так і атрымалася.

*» Загадзя праграму я не планаваў і не планую, таму што для мяне гэта — тое ж самае, што распавядаць адну і тую ж гісторыю двойчы».*

Леанід Чыжык шмат выступаў і гастраляваў са сваім трыа, у склад якога акрамя яго таксама ўваходзілі Уладзімір Васількоў і Герман Лук'янаў. Пасля насычанага музычнага жыцця ў складзе розных аркестраў і ансамбляў Леанід Чыжык адчуў, што гатовы для самастойнай працы. У калектывах трэба было паўтараць праграмы з канцэрта ў канцэрт. Месца для імправізацыі, так дарагой сэрцу музыканта, амаль не заставалася. З 1968 года ён стаў выступаць сольна. «Я мог сабе дазволіць іграць тое, што прыходзіла ў маю душу, у маё сэрца зараз, у гэтую ж хвіліну. Такім чынам, я стаў выказваць найвышэйшую ідэю джаза як сістэмы дыялогу са светам. Загадзя праграму я не планаваў і не планую, таму што для мяне гэта — тое ж самае, што распавядаць адну і тую ж гісторыю двойчы».



*Леанід Чыжык падчас выступлення.*

### ДЖАЗ ЯК СВАБОДА І АДСУТНАСЦЬ МЕЖАЎ

«Нягледзячы на тое, што мяне прылічаюць да разраду джазавых музыкантаў, я не хачу адмяжоўвацца ад таго вялізнага свету музыкі, у які я быў пагружаны. Гэта свет Моцарта, Бетховена, Шумана, Малера, Скрабіна, Вагнера і многіх іншых. Музыка — гэта механізм, які мае вялікае ўздзеянне на чалавечую душу, на выхаванне, светаадчуванне. Таму для мяне джаз з'яўляецца не толькі музыкай пачатку XX стагоддзя — музыкай «цяпер», — пазначыў Леанід Чыжык.

У сучасным свеце, які так хутка мяняецца, важна ўлавіць сутнасць моманту, у якім знаходзіцца чалавек. Музыкант імкнуўся ажывіць класіку, зрабіць так, каб яна не была застылым, музейным мастацтвам. «Я даўно сябе адвучыў ад межаў. Я мог бы іграць з вялікім поспехам у сваім джазавым стылі. Але мне заўсёды было цесна ў рамках пэўнага напрамку. Калі быў толькі выканаўцам, то адчуваў, што быццам апранаў маску: сёння Баха, заўтра Бетховена. Гэтыя маскі мне былі не ўласцівыя. Заўсёды хацелася быць самім сабой тут і цяпер», — успамінае музыкант.

Усе межы для Леаніда Чыжыка, сапраўды, даўно сталі ўмоўнымі. Музыкант арганічна аб'яднаў класічную музыку і джаз. Пра гэта сведчыць поспех імправізацый на тэмы Чайкоўскага, Гендэля, Малера, Моцарта, Шапэна і іншых.

Імправізацыя — гэта свабода, адкрыты дыялог з сабой і з гледачом. «Калі я іграю адзін, то гэты канцэрт называецца проста «Вечар джазавай музыкі». У ім няма загадзя складзенай праграмы. Для мяне вельмі важны кантакт з публікай. Кожная зала фарміруе асаблівую энергію. У ёй можна лёгка адчуць інтэлектуальны, эмацыянальны ўзровень — і пачаць размову. Тое, як будуць гучаць музычныя творы, шмат у чым залежыць ад творчага імпульсу, які дае мне зала. Ажывіць мелодыі і распавесці яе на мове джаза — вось мая мэта», — распавядае музыкант.

*» Ён ладзіў вечарыны, прысвечаныя джазу і ўсяму, што гэтай музыкі тычылася. Адукоўваў публіку, паказваў новы напрамак у мастацтве — пакрысе, паступова.*

### ЧАСТКА ГІСТОРЫІ

Леанід Чыжык больш за дваццаць гадоў жыве ў Германіі і прыязджае ў Беларусь нячаста. Нягледзячы на гэта, піяністу больш за ўсё падабаецца выступаць у постсавецкіх краінах. «Так здарылася, што я сапраўды стаў у нейкім сэнсе легендай. Я разумею, што да мяне стаўленне тут не такое, як ва ўсім свеце. За мяжой людзі прыходзяць на мае канцэрты, слухаюць, апладзіруюць, бяруць аўтографы, але трапятання, адчування, што я належу гісторыі, няма нідзе, акрамя нашых краін». Таму Леанід Аркадзьевіч з радасцю прыняў прапанову зрабіць сумесны канцэрт з Дзяржаўным камерным хорам Рэспублікі Беларусь. Выступ з вялікім поспехам прайшоў на мінулым тыдні ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Піяніст прызнаўся, што за час падрыхтоўкі да канцэрта прасякнуўся велізарнай сімпатыяй да Дзяржаўнага камернага хору і яго мастацкага кіраўніка Наталлі Міхайлавай за прафесіяналізм, адданасць сваёй справе і адкрытасць. У адным з аддзяленняў прагучалі варыяцыі на тэму Чайкоўскага. На думку Леаніда Чыжыка, музыка гэтага кампазітара — бязмежны меладычны акіян, ідэальная аснова для джазавых імправізацый. У іншым аддзяленні піяніст разам з хорам ахутаў гледачоў святочным флёрам, выканаўшы варыяцыі на калядныя мелодыі.

Сваё майстэрства Леанід Чыжык перадае маладым музыкантам. Леанід Аркадзьевіч — прафесар Мюнхенскай кансерваторыі і Вышэйшай школы музыкі ў Веймары. Гэта сведчыць аб прызнанні не толькі музычнага, але і выкладчыцкага таленту. «Як выкладчык я падыходжу да джаза не як да закрытай адасобленай з'явы, а як да часткі музычнай культуры. З аднаго боку, для мяне важна веданне музыкі, а з другога — асобасная праява і абуджэнне вучня. Гэтыя два фактары даюць добры вынік». Асноўная думка, якой Леанід Аркадзьевіч кіруецца ў сваёй сістэме выкладання і тлумачыць яе студэнтам — гаварыць са светам на сваёй мове, знайсці свой стыль. Як аднойчы атрымалася ў гэтага легендарнага музыканта.

**Юлія КАРДАШ**

# Ці трэба рабіць Малевіча беларусам?

**Біяграфіі знакамітых людзей часта прывабліваюць не столькі апісаннем паслядоўных падзей, колькі яркімі міфамі і неверагоднымі дапушчэннямі. Здагадкі і смелыя гіпотэзы могуць патрапіць нават у сур'ёзны жыццяпіс — галоўнае, каб непацверджаныя дадзеныя не занялі месца рэальных фактаў, нават калі для аўтара гэта надзвычай зручна...**

Ідэя пра беларускае паходжанне сусветна вядомага мастака, аднога з заснавальнікаў мастацтва геаметрычнай абстракцыі Казіміра Малевіча, была выказана ўпершыню яшчэ ў 20-я гады. Аўтарам яе можна лічыць Мікалая Каспяровіча, які не быў асабіста знаёмы з Малевічам, але, спасылаючыся на верагодных інфарматараў з ліку віцебскіх вучняў супрэматыста, паведаміў у артыкуле «Матэрыялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва», што мастак «паходзіць з сяла Малева Менскай ці Віцебскай губерніі». Аднак Каспяровіч робіць агаворку і сцвярджае, што гэта паводле «падання». Цікава, што пра абмеркаванне свайго радаводу ў беларускай прэсе даведаўся сам Малевіч. У лісце 1927 года да жонкі Наталлі Андрэеўны знаходзім пра гэта даволі іранічныя словы: «У Беларусі мяне лічаць беларускім мастаком, быў нават цэлы артыкул пра мяне ў беларускіх газетах. Пагаворваюць, што Беларуская рэспубліка хоча мяне перасяліць у сваю рэспубліку. Можа быць, палякі таксама будуць лічыць сваім».

Версія пра беларускае паходжанне Казіміра Малевіча знайшла нямала прыхільнікаў у коле беларускай інтэлігенцыі і нават пакладзена ў аснову кнігі Леніны Міронавай «Казімір Малевіч» серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» выдавецтва «Харвест».

Адзін з праектаў «Харвеста», серыя невялікіх кніг «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры», заснаваны яго былым галоўным рэдактарам, пісьменнікам і гісторыкам Анатолем Тарасам у 2012 годзе. Па яго словах, кнігі прысвячаюцца «дзеячам культуры XIX-XX стагоддзяў, якія ўвасаблялі нацыянальныя погляды на гісторыю, мастацтва, народную і прафесійную культуру Беларусі. Гэта людзі, якія працавалі на Беларусі ўсё жыццё або значную частку жыцця. Эмігранты прадстаўлены як выключэнне».

Першапачаткова ў пераліку імёнаў не было славутага Казіміра Малевіча. Ён жыў у Віцебску ў важны перыяд творчасці, але большасць яго жыцця прайшла за межамі Беларусі. Нядзіўна, што ў серыю не трапілі і іншыя асобы, звязаныя з Беларуссю і Віцебскам. Так, няма сярод іх сусветна вядомага вучонага Міхаіла Бахціна, мастакоў Марка Шагала і Юрыя (Юдэля) Пэна, мовазнаўцы Мікалая Каспяровіча. Але склад серыі павялічваецца. У выніку тут вельмі хутка з'явіўся К. Малевіч. Пра абставіны, з нагоды якіх біяграфія мастака патрапіла ў серыю, трэба сказаць спецыяльна.

Кніга Леніны Міронавай пабачыла свет у 2015 годзе, азначаным юбілеем славутага «Чорнага квадрата». Біяграфія К. Малевіча — адно з сумесных выданняў «Харвеста» з Інстытутам беларускай гісторыі і культуры ў Латвіі, вучоным сакратаром якога з'яўляецца А. Тарас. Леніна Мікалаеўна Міронава — вядомы ў краіне вучоны-педагог, прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў, кандыдат архітэктуры, аўтар папулярнага падручніка па колеразнаўстве, які неаднаразова перавыдаваўся. Зварот Л. Міронавай да асобы Малевіча выглядае даволі натуральна. На яе ўласным інтэрнэт-сайце выкладзены вялікі артыкул «Творчасць Казіміра Малевіча як люстэрка эпохі». Публікацыя пазначана 15 кастрычніка 2014 г. Артыкул, незалежна ад тэксту серыйнай кніжкі, прадстаўляе цікавасць «разборамі» супрэматычных твораў мастака. У якасці эпіграфа да артыкула ўзята выказванне Ігара Малевіча. Інтрыгуе не столькі выказванне, колькі прозвішча яго аўтара. І гэта мае непасрэднае дачыненне да канцэпцыі выдання.

Ігар Малевіч — доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, аўтар шэрагу кніг, у тым ліку выдадзенай у 2012 годзе кнігі «Казімір Малевіч. Узыходжанне на крыж лёсу». У ёй аўтар тлумачыць, што цікавасць да асобы вялікага мастака і вывучэння яго творчасці не выпадковая. Ігар Аляксандравіч сцвярджае: ён — сваяк і ўнучаты пляменнік Казіміра Севярынавіча Малевіча, пацвярджаючы свае словы міфам, крыніцай якога была яго бабуля, і толькі. Чамусьці аўтар кнігі, у аснову якой гэты «факт» пакладзены, не распачаў генеалагічнае даследаванне, якому можна было б прысвяціць частку тэксту ў 256 старонак. На падставе вуснага падання таксама сцвярджаецца, што Казімір Малевіч нарадзіўся не ў Кіеве, як паведамляе яго афіцыйная біяграфія, а ў беларускім горадзе Капылі, дзе прозвішча Малевіч сапраўды вельмі распаўсюджанае. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова звярнуцца да спісаў загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны, змешчаных у раённай кнізе «Памяць».




Ігар Малевіч разважае пра «касмічнае» значэнне асобы вялікага супрэматыста Малевіча і знаходзіць нямала прыхільнікаў. Шкада толькі, што сярод іх — ніводнага прафесіянала-гісторыка, які ўсё ж заняўся б даследаваннем радаводу мастака. Інфармацыя пра беларускія карані Малевіча не новая — з канца 1970-х гадоў яна час ад часу з'яўлялася са спасылкай на «ўнучатага пляменніка», аўтарытэт якога ўсё ўзрастаў. З яго слоў распавядалі пра беларускі радавод Малевіча вядомыя нашыя літаратары і навукоўцы Адам Мальдзіс, Алесь Марціновіч, Уладзімір Конан. У. Конан паспрабаваў падмацаваць гэтую ідэю ўскоснымі меркаваннямі ў артыкуле, надрукаваным у часопісе «Мастацтва Беларусі». З мастацтвазнаўцаў пра беларускі радавод Малевіча пісаў Яўген Шунейка. Ва ўсіх выпадках неабвержаны крыніцай звестак быў «унучаты пляменнік», які потым самастойна стварыў часопісны варыянт свайго аповеду.

Тым не менш Леніна Міронава мела шанс самастойна разабрацца ў праблеме радаводу. Выбіраючы паміж распаўсюджвальнікам міфаў Ігарам Малевічам і акадэмікам Дзмітрыем Сараб'янавым (аўтар многіх тэкстаў, прысвечаных Малевічу, і вялікага даследавання, першага ў постсавецкай мастацтвазнаўчай літаратуры), Міронава робіць выбар на карысць першага. Звесткі ад бабулькі Ульяны сталіся больш пераканаўчымі.

Сцвярджаючы, што «сапраўдныя дакументы адсутнічаюць», Міронава адначасова ў ліку крыніц свайго нарыса прапануе выдадзены ў 2004 годзе ў Маскве двухтомнік «Малевіч пра сябе. Сучаснікі пра Малевіча», у якім надрукаваны архіўныя дакументы, што пацвярджаюць афіцыйную версію нараджэння Малевіча ў Кіеве, дапамагаюць рэканструяваць яго радавод, прадстаўлены ў двухтомніку ў выглядзе генеалагічнага дрэва. Хіба толькі наша аўтарка, якая прапанавала бібліяграфію, гэты двухтомнік не разгарнула? А магла б спаслацца на дакументы і патлумачыць чытачу, чаму яны яе не пераконваюць. Яшчэ адна заўвага: год нараджэння Малевіча пададзены ў яе біяграфіі стары і памылковы — 1878, замест сапраўднага 1879. Больш за тое, на лічбах «1878» у тэксце біяграфіі ад Міронавай распрацаваная сапраўдная нумералогія, — відаць, дзеля таго, каб пазабаўляць чытача. Пра ўкраінскае паходжанне Малевіча ў грунтоўнай кнізе «Малевіч у Варшаве» піша і вядомы польска-французскі даследчык яго біяграфіі Анджэй Тураўскі. Ён жа спасылаецца на адпаведныя дакументы.

Хацелася б засяродзіць увагу на характары прынцыповага вырашэння праблемы радаводу ў біяграфічнай кнізе Міронавай: калі ёсць жаданне абвясціць Малевіча беларусам, дзеля гэтага дастаткова міфа. Магчыма было б зрабіць і больш падрабязны разбор тэксту беларускамоўнай біяграфіі супрэматыста Малевіча. Пацешна выглядаюць разважанні аўтаркі пра выдадзеную ў Віцебску яго тэарэтычную працу «Бог не скінуты». Пасля выхаду ў свет гэтай брашуры ў 1922 годзе мясцовая віцебская газета паведамляла, што мастак Малевіч надрукаваў антырэлігійны твор. А вось Міронава пераканаская ў тым, што галоўная ідэя гэтай філасофскай працы Малевіча — богасцвярджальніцкая. Пра гэта зноў сведчыць упадабаны ёю эпіграф. Але перш за ўсё звяртаюць на сябе ўвагу моманты, калі аўтар абыходзіць бясспрэчныя факты, якія даюць падставу для разважанняў пра вялікую ролю мастака ў гісторыі віцебскага мастацтва, яго віцебскіх вучняў. Чаму няма грунтоўнага апавядання пра рознабаковую дзейнасць створанай Малевічам у Віцебску групы УНОВИС («Утвердители нового искусства» — «Сцвярджальнікі новага мастацтва»)?

Можна ўпэўнена адзначыць: не павінна быць папулярных біяграфій, якія будуюцца на беспадстаўным скажэнні фактаў. Гэта не на карысць нашай культуры. Бясспрэчна, што стваральнік канцэпцыі новага мастацтва супрэматызму назаўсёды звязаны з беларускай культурай, але навошта дамагацца трывалых сувязяў з дапамогай фальсіфікацый? Не выключана, што ў радаводзе мастака ёсць аддаленыя сувязі з беларускай шляхтай, але патрэбна карпатлівая праца гісторыкаў і архівістаў, каб гэта пацвердзіць.

**Аляксандр ЛІСАЎ**

# Адчуваць сябе супольнасцю

**На XXI з'ездзе Беларускага саюза дызайнераў старшыня саюза Дзмітрый Сурскі і ўдзельнікі з'езда абмеркавалі, чаму сёння на нацыянальным рынку існуе вельмі мала пэўных адметных знакаў альбо аб'ектаў, якія б дазвалялі ідэнтыфікаваць іх з беларускімі таварамі.**

Падчас з'езда Дзмітрый Сурскі адзначыў: «Сістэма дызайну ў нашай краіне дала збой — у Беларусі ёсць таленавітая, творчая моладзь, якая б магла дапамагаць развіваць саюзу дызайнераў новыя ідэі і канцэпцыі, але ж яна працуе асобна, не заўсёды творцы звяртаюцца да саюза з аўтарскімі праектамі. Ёсць у нашай краіне цікавасць грамадства да дызайну, ёсць і варыянты развіцця працы дызайнераў, магчыма, з наступнага года некаторыя з іх у нас атрымаецца рэалізаваць».

Далей старшыня прапанаваў прадстаўнікам саюза для больш якаснай працы і развіцця аўтарскага дызайну адчуваць сябе супольнасцю: прафесійнай і творчай. Ён лічыць, што пры такіх умовах будзе магчыма знайсці выйсце з фінансавай сітуацыі і рабіць больш новых, якасных праектаў. У выніку з'езда члены Беларускага саюза дызайнераў прыйшлі да высновы: многія пытанні могуць быць вырашаны за кошт сумеснай і актыўнай працы над узняццем іміджу беларускага дызайну і прыцягнення таленавітых і здольных людзей са свежымі думкамі.

**Людміла ПАЎЛАВЕЦ**



## Дызайнерскае святло

Свяцільнік, падобны да саламяных абярэгаў-«павукоў», ліхтарык у выглядзе рыбкі, інсталяцыя, з якой струменіцца святло. Мастацкія творы, але іх лёгка ўявіць у сваім пакоі.

Прыкладная філасофія для штодзённага ўжытку — тэма, над якой папрацавалі беларускія дызайнеры. Вынікамі іх працы сталі асвятляльныя прылады, арт-аб'екты, інсталяцыі, скульптурныя і жывапісныя творы, аўтарскія фота. Сцвярджэннем святла можна назваць выстаўку «Ліхтарт-2015». Некаторыя з асвятляльных прыбораў, выгляд якіх прыдумалі дызайнеры, хоць зараз запускай у вытворчасць і распаўсюджвай па крамах — пакупнікі б не прайшлі міма: з такімі ліхтарыкамі забяспечаны светлы настрой.

# Зразумець Суціна

## Дапамагаюць удзельнікі пленэра «Прастора Суціна»

Да творчасці сусветна вядомага мастака Хаіма Суціна немагчыма ставіцца абыякава — яго карціны палохаюць, здзіўляюць, заварожваюць... Як і вынікі міжнароднага жывапіснага пленэра «Прастора Суціна». Ён аб'яднаў мастакоў Беларусі, Расіі і Літвы ў Гарадской мастацкай галерэі Л. Шчамялёва. Удзел у пленэры ўзялі чацвёра творцаў — яркіх, самабытных, абсалютна розных па сваёй жывапіснай манеры, але экспрэсіўных і эмацыянальных — і тым блізкіх Суціну.

Эпіграфам да выстаўкі стаў партрэт Суціна, які належыць пэндзлю Дзмітрыя Сурыновіча: майстар адлюстраваны побач са скрываўленай тушай быка. Насупраць — работа Аляксандра Рэпкі, адзіная ў экспазіцыі, але вельмі характэрная па сваім настроі. Гэтыя два творы, змрочныя, напружаныя, прасякнутыя роспаччу і трывогай, задаюць тон усёй экспазіцыі.



Саламон Тэйтэльбаум «Возера Свір».

Нашу краіну прадстаўляюць Уладзіслаў Пятручык і Аксана Аракчэева. Суцін не блізкі аўтарам па светаўспрыманні, але падчас адкрыцця вернісажу творцы прызналіся: удзел у пленэры стаў для іх цікавым эксперыментам. Можна прасачыць, як змяніўся стыль напісання работ: ад мяккага, гарманічна-ўраўнаважанага творцы перайшлі да больш буйнога і экспрэсіўнага. Яскравым дапаўненнем да экспазіцыі сталі выразныя і каларытныя работы літоўца Саламона Тэйтэльбаума.

Мастакі не ставілі мэты імітаваць творчы почырк Суціна, капіраваць і цытаваць знешнія рысы, але арыентаваліся на ўнутраны вобраз. Творцы імкнуліся зразумець прычыны трывог і хвалявання мастака, перадаць абвостранае, балючае ўспрыманне рэчаіснасці, уласцівае яго карцінам. Палотны, прадстаўленыя на выстаўцы, напоўненыя шматлікімі сімваламі, адсылкамі да творчасці вялікага майстра.

Асоба Хаіма Суціна, ахутаная арэолам загадак і таямніц, выклікае шмат дыскусій. Сёлета ў Мінску і Смілавічах адбылася I Міжнародная канферэнцыя «Суцінскія чытанні», на якой імкнуліся спазнаць феномен Суціна, асэнсаваць значэнне яго творчай спадчыны для сусветнай і беларускай культуры. Адным з праектаў



Уладзіслаў Пятручык «Партрэт кандытара».

стаў міжнародны пленэр «Прастора Суціна», які адбыўся восенню ў вёсцы Засвір Мінскай вобласці з ініцыятывы дырэктара «Кніжнага салона» Алы Зміевай.

Экспазіцыя будзе працаваць да сярэдзіны студзеня, пасля выправіцца ў музей Суціна ў Смілавічах.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Спакой і гармонія старажытнага Заслаўя

Калі, разглядаючы творы, маеш магчымасць у думках прайсціся разам з мастаком па месцах ягонай памяці, акунуцца ў то імклівую, то няспешную плынь ягонага жыцця, хочацца паспрабаваць увайсці з ім у дыялог… Прынамсі, у мяне такое жаданне з'явілася, калі завітала ў Мастацкую галерэю імя Міхаіла Савіцкага на персанальную выстаўку жывапісу «Заслаўе. Жывапісныя імпрэсіі старога горада» Віктара Маркаўца.

На палотнах жывапісца прадстаўлены краявіды старажытнага беларускага горада Заслаўе, дзе мастак пражыў шмат гадоў. Вялікай любоўю ахутана кожная работа, кожны вобраз майстра. Паўсядзённае жыццё старажытных вулачак горада, старыя дрэвы, крыніцы, дамы пададзены вельмі рэалістычна. Складваецца ўражанне, што мастак запрашае гледача разам з ім убачыць, разгледзець такую, здавалася б, простую, знаёмую, але важную для кожнага з нас прыгажосць родных мясцін. Віктар Маркавец цікавіўся падарожжамі і сам неаднаразова з сябрам Алесем Разанавым выпраўляўся ў розныя мястэчкі Беларусі. На адкрыцці выстаўкі ў памяць пра дарагога сябра Алесь Разанаў сказаў: «Нашага галоўнага выканаўцы сёння няма з намі, але яго творы жывуць і адгукаюцца сваёй душой, сваёй непрымальнасцю любых складанасцей, любых рэжымаў. У Віктара ў жыцці заўсёды адбываліся цікавыя, творчыя з'явы, у яго руках усё станавілася геніяльным».

Варта зайсці ў мастацкую прастору галерэі, і ад хараства захоплівае дух… А потым згадваеш, што Заслаўе мае тысячагадовую гісторыю. У Віктара Маркаўца ёсць творы, дзе ажываюць падзеі мінулых стагоддзяў: «Усяслаў Чарадзей» (1987 г.), «Рагнеда ды Ізяслаў» (1992 г.), «Заслаўе і Грунвальд» (1992 г.), «Харугва. Бітва на Ворскле» (2010 г.). Але ж большая частка твораў усё ж прысвечана рамантычнай прыродзе дарагіх для мастака мясцін.



«Заслаўе. Курганы ля Дзехнаўкі». 2005 г.

Адна з самых вялікіх карцін Віктара Маркаўца — «Заслаўе. Курганы над Замачкам. Панарама» (2005 г.). Палатно ўспрымаецца вельмі эмацыянальна. Зімовы пейзаж, адзінокія шэрыя дрэвы, маленькія ў параўнанні са снежнай прасторай драўляныя хаткі сцішыліся ў чаканні блізкай вясны. Неба і зямля па тоне амаль аднолькавыя, іх падзяляе толькі вада. Ледзь прыкметныя праталіны сведчаць, што ў Заслаўе прыходзіць цяпло. Яшчэ адна снежная работа мастака — «Заслаўе. Хаткі на вуліцы Вялікай» (1997 г.) — натхняе на ўспаміны пра дзяцінства, пра вясковыя драўляныя хаты і цёплыя печы. Мастак



«Заслаўе. Хаткі на вуліцы Вялікай». 1997 г.

літаральна зацягвае ў свой свет, паказваючы повязь чалавека з наваколлем. Здаецца, ён гаворыць: шчасце ў простым, не трэба яго шукаць далёка. «Заслаўе. Чорная гара» (2005 г.) — восеньскі пейзаж. Жоўта-зялёная гама колераў яшчэ зберагае цяпло. Галоўнае тут — спакой і гармонія. Старыя дахі ледзь заўважныя за высокімі дрэвамі і нагадваюць людзей, што хаваюцца ад блізкіх халадоў, прагнуць захаваць адчуванне сонечнай цеплыні. І толькі на Чорнай гары адзінокія дрэвы падымаюць свае тоненькія галіны да хмарнага восеньскага неба.

Творы Віктара Маркаўца дапамагаюць не толькі ўбачыць прыгожыя, цікавыя краявіды Заслаўя, захапіцца гэтымі мясцінамі — яны заклікаюць гледача ўспомніць і свой родны дом, гісторыю роднага краю, дапамагаюць па-новаму адкрыць для сябе звыклыя, да драбніц знаёмыя краявіды, натхніцца іх хараством. Хоць і няма ўжо гэтага таленавітага мастака сёння сярод нас, але ж яго прысутнасць адчуваецца ў кожным творы, у кожнай лініі, кожным вобразе.

**Мая ДУБОВІК**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 23.12.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1503 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686